www.nv-online.info

№ 60 (4209)

1 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
*в* Twitter *www.twitter.com/narodnaya_volya*
*в* Facebook *www.facebook.com/nv.online.info*
*в* Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo*

SOS!

## Паводле падлікаў Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, знешні дзяржаўны доўг на 1 ліпеня 2017 года склаў 15,6 мільярда долараў ЗША і павялічыўся з пачатку года на 1,9 мільярда (з улікам курсавых розніц), або на 14,2 працэнта.

ЖНІВО-2017

## Хто радуецца, а хто…

Гэта ў залежнасці ад таго, якія ў каго сёлета намалоты збожжа. Віцебскім хлебаробам можна радавацца. У іх з кожнага гектара ў сярэднім выходзіць 34,9 цэнтнера, а ў мінулым годзе было толькі 29,9. Прыбаўка ёсць і ў гродзенцаў, якія на круг намалочваюць па 43 цэнтнеры зерня, амаль на 2 цэнтнеры больш, чым летась.

Калі браць усе вобласці Беларусі, то ў сярэднім з гектара намалоты складаюць 32,4 цэнтнера. Крыху менш, чым у мінулым годзе, але ж жніво яшчэ нават не дасягнула апагею. На ўчарашні дзень каласавыя былі абмалочаны недзе толькі з дзясятай часткі плошчаў.

**Людміла КОЗЫРАВА.**

КОШТЫ

## Павышэнне камуналкі «замарозілі». Да горшых часоў?

*Чыноўнікі абяцаюць, што да канца гэтага года тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі расці не будуць.*

Як вядома, ужо ў бліжэйшы час нас чакала сур'ёзнае павышэнне камуналкі, і гэта была адна з умоў Міжнароднага валютнага фонду па прадастаўленні краіне крэдыту.

Планавалася, што да канца 2017 года беларусы павінны былі аплачваць ўжо 75 працэнтаў выдаткаў на ЖКГ, да канца 2018-га – 100%. Тым часам Беларусь атрымала грошы з іншых крыніц, а таму не спяшаецца выконваць ўмовы МВФ. Напрыклад, не так даўно стала вядома, што Міжнародны валютны фонд прыпыніў перамовы з Беларуссю па новай крэдытнай праграме праз адсутнасць рэформаў.

У мінулыя выхадныя старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі **Леанід Анфімаў паабяцаў** у перадачы «Контуры» на АНТ, што да канца 2017 года *«дакладна не будзе павышэння тарыфаў»* на жыллёва-камунальныя паслугі.

*"Усё заканамерна,* – кажа кіраўнік праекта "Кошт урада" **Уладзімір КАВАЛКІН**. – *У бліжэйшыя паўгода ўлады не маюць вялікай патрэбы ў крэдыце, таму і не збіраюцца павышаць тарыфы ў гэтым годзе. Хаця з іншага боку – праграма ўзаемадзеяння з МВФ прынята і павінна выконвацца. Яе трэба зараз альбо адмяняць, альбо мадыфікаваць, каб не выконваць умовы Міжнароднага валютнага фонду. Але нават калі б камуналка і павысілася, то яна па-ранейшаму засталася б адной з самых танных у параўнанні з суседнімі краінамі"*.

Паводле слоў экспертаў, пытанне павышэння тарыфаў ЖКГ "замарозілі" да горшых часоў, пакуль ізноў не спатрэбяцца грошы Міжнароднага валютнага фонду.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Ніна ШЫДЛОЎСКАЯ: «Допытаў няма, хлопцы працуюць…»

30 чэрвеня на волю выйшаў апошні зняволены фігурант «справы патрыётаў» – колішні кіраўнік «Белага легіёна» **Міраслаў Лазоўскі.**

Зараз праваабаронцы звяртаюць увагу, што пераслед фігурантаў за «падрыхтоўку масавых беспарадкаў» спынены, але не была спынена сама справа, ад якой раней адмовіўся КДБ. Пры гэтым невядома імя ніводнага чалавека, які меў бы на сёння статус падазронага па гэтай справе.

Дарэчы, ёсць і другое абвінавачанне: па справе аб «стварэнні незаконнага ўзброенага фарміравання» яшчэ праходзіць шэраг асоб, якім пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

– Наколькі мне вядома, зараз ніякіх допытаў няма, як няма і іншых следчых дзеянняў у дачыненні да хлопцаў, – кажа **Ніна Шыдлоўская**. – Але ў той жа час мы бачым, што няма ў сілавікоў пакуль намеру і цалкам закрыць гэтую справу. Прынамсі – пакуль няма. Таму ўсё гэта аказалася ў нейкім падвешаным стане. З аднаго боку, фігурантаў "справы патрыётаў" быццам бы і не чапаюць, яны на волі, але з другога – справа ў любы момант можа "раскруціцца" зноў.

**– На ваш погляд, ці дойдзе яна да суда?**

– Ніхто дакладна вам не дасць такі прагноз, бо гэта будзе залежаць шмат ад якіх акалічнасцяў. Натуральна, калі б былі нейкія сур'ёзныя доказы крымінальнага злачынства, то справа ўжо была б у судзе, а хлопцы знаходзіліся б не дома. Добра ўжо тое, што сёння хлопцы не за кратамі, а са сваімі сем'ямі.

**– Усе вярнуліся да працы?**

– Амаль усе займаюцца тым, чым займаліся да арыштаў. Напрыклад, Міраслаў Лазоўскі вярнуўся ў выдавецтва "Кнігазбор" на пасаду памочніка дырэктара, Алесь Яўдаха таксама займаецца распаўсюджваннем кніг праз knihi.by. Андрэй Дундукоў працягвае працу ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, а Віктар Мароз – у камерцыйнай структуры... А вось у Валодзі Румянцава акурат падчас вызвалення падыходзіў да заканчэння кантракт у арміі, дзе ён служыў лейтэнантам, але ён працягваць яго сам не захацеў. Таму, як бачым, сітуацыя не паўплывала на працаўладкаванне хлопцаў пасля вызвалення. Прынамсі, палкі ў колы ніхто асабліва не ўстаўляе.

**Алесь СІВЫ.**

СУД

## У Гомелі пачаўся разгляд «справы мытнікаў», па якой абвінавачваюцца 18 чалавек

Суд Цэнтральнага раёна Гомеля пачаў разгляд крымінальнай справы па абвінавачанні арганізаванай групы з 18 чалавек, у склад якой уваходзілі службовыя асобы Гомельскай мытні і прадстаўнікі некаторых фірмаў Гомеля, у дачы і атрыманні хабару, а таксама злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, махлярстве і пасрэдніцтве ў хабарніцтве.

РЕЗОНАНС

## Александр ЯРОШУК: «В сегодняшней Беларуси нет места чуду…»

*Экономический суд Минской области объявил о банкротстве иностранного частного унитарного сельскохозяйственного предприятия «Штотц Агро-Сервис».*

Инициировала процедуру банкротства «Штотц Агро-Сервиса» инспекция по налогам и сборам по Смолевичскому району. На 25 сентября назначено судебное заседание, в ходе которого будет рассмотрен вопрос о начале конкурсного производства и подготовке к судебному разбирательству.

Пока «Штотц Агро-Сервис» руководит назначенный судом временный управляющий **Виктория Степная**. Никаких комментариев о том, какая сейчас ситуация на предприятии, Виктория Геннадьевна не дает. *"Боюсь ввести вас в заблуждение, сама хочу во всем детально разобраться"*, – сказала она "Народной Воле".

Бывший чиновник, а ныне председатель ассоциации «Белорусский Конгресс демократических профсоюзов» **Александр Ярошук** хорошо знал основателя некогда успешного предприятия **Лоренца Петера Штотца.**

– В начале 1990-х годов я работал в Министерстве сельского хозяйства и продовольствия, занимался внешнеэкономической деятельностью, – *вспоминает Александр Ильич.* – Ежедневно приходилось вести переговоры с 5–6 делегациями разных стран, которые открывали нашу страну и оценивали возможности вести здесь свой бизнес. Наибольший интерес к нам проявляли немцы, в короткие сроки мы сумели заключить с Министерством сельского хозяйства Германии договор о сотрудничестве. Предполагалось создать предпосылки для реформирования белорусских колхозов по примеру реформирования госхозов бывшей ГДР. Уже в 1993 году с этой целью в наше Министерство прибыл в качестве советника бывший начальник департамента экономики ГДР Эрхард Герстенберг, за плечами которого был большой опыт реформирования госхозов.

И работа закипела. По договору мы отправляли группу за группой председателей райисполкомов, начальников районных управлений сельского хозяйства, председателей колхозов, руководителей сервисных организаций на недельную учебу в Высшую сельскохозяйственную школу земли Бранденбург в Потсдаме, где они изучали теорию и практику реформирования госхозов в предприятия с частной формой собственности. В поте лица трудился Эрхард Герстенберг, с которым мы крепко подружились. Он неустанно находил в Германии желающих заниматься агробизнесом в Беларуси, и было немало тех, кто, по примеру Штотца, рискнул этим заниматься. А мой друг Эрхард тем временем подготовил проект закона «Об адаптации сельского хозяйства к рыночным условиям».

Но... Пришли иные времена, взошли иные имена. С 1994 года возникло мягкое торможение, а затем процессы реформирования отрасли стало клинить все жестче и жестче. По инерции, благодаря невероятному упорству ныне покойного министра Василия Леонова, нам удавалось несколько лет преодолевать консерватизм властей и поддерживать процессы реформирования села (я в это время работал уже первым заместителем председателя Минского облисполкома). Но в 1997 году надели наручники на Леонова, а спустя год выкинули с работы и меня. Не стали рассматривать в парламенте подготовленный закон о реформировании сельского хозяйства, вернулся домой Эрхард Герстенберг.

К началу 2000-х годов практически все немецкие бизнесмены покинули страну, остался один Штотц. Я с интересом следил, чем же закончится его неравное противостояние с агрессивной колхозной системой страны, отторгающей в любом виде частную собственность. Признаюсь, Штотц совершил невозможное – он чудом продержался еще полтора десятка лет. Но, вероятно, убедился и он, что в сегодняшней Беларуси нет места чуду…

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

СКОРБНЫЕ СЛОВА

## Прощание с «летающим мужиком»

Владимира Леонтьевича Бедулю поэт Андрей Вознесенский назвал когда-то «летающим мужиком» и посвятил ему небольшую поэму. Вот, на мой взгляд, самые пронзительные строки из нее:

*«Нет правды на земле.*
*Но правды нет и выше».*
*Бедуля ищет правду под землей.*
*Глубоко пашет и, припавши,*
*слышит,*
*как тяжко ей приходится, родной!*
*Его и славословили, и крыли.*
*Но поискам – не до шумих.*
*Бедуля дует на подземных крыльях!*
*Я говорю: «Летающий мужик».*



Сейчас нет ни Андрея Вознесенского, ни Владимира Бедули. Отпраздновав свое девяностолетие, Владимир Леонтьевич Бедуля позавчера покинул нас навсегда. Он больше не вернется.

Конечно, это печально. Но гораздо хуже другое. Уходит тот тип сельскохозяйственного руководителя, который ассоциировался с Владимиром Бедулей, Василием Старовойтовым, Петром Деньщиковым, Владимиром Ралько… Сегодня можно спорить о том, хорошими они были или плохими, авторитарными или демократичными. Можно говорить о том, как ради достижения желаемого результата в одном образцово-показательном хозяйстве лишали ресурсов десятки других хозяйств в их районах, как поддерживали их, помогали им. Но нельзя отрицать главного: это были личности, умевшие руководить сами и умевшие говорить «нет» требованиям вышестоящего начальства, если они были с этими требованиями не согласны. И колхозники избирали их, несмотря ни на что – ни на резкость в словах, ни на способность обидеть, потому что при таких председателях все хозяйство жило лучше; защищая колхоз, они защищали и колхозников.

Я не знаю, что почувствовал Владимир Бедуля, когда судили Василия Старовойтова, но известно то, что он не просил за Старовойтова. И это многие ставили ему в вину. Хотя никто не знал, что у него было на душе. Может, тогда он услышал звон колокола и по себе. Власть показала, что не терпит тех, кто способен проявлять настоящую и последовательную самостоятельность. И когда самого Бедулю в марте 2006 года отправили в отставку, отставка вовсе не носила почетного характера. Вслед полетели достаточно жесткие слова. Озвучить претензии к Владимиру Леонтьевичу, 50-летний председательский юбилей которого только что отметили, высшая власть поручила Надежде Котковец, занимавшей тогда должность первого замминистра сельского хозяйства и продовольствия. 22 марта 2006 года на отчетном собрании колхоза она заявила: *«У меня сегодня очень нелегкая задача, потому что я отношусь к Владимиру Леонтьевичу с огромным уважением, однако так продолжаться не может… Ваше хозяйство стоит на месте, а вы должны идти вперед. Изношенность основных фондов составляет 60–70 процентов. Вся техника устарела морально и физически, а купить новую вы не можете, потому что у хозяйства более 3 миллиардов рублей дебиторской задолженности. Ваши доярки доят на фермах по старинке, с ведрами, а должны работать на современных доильных комплексах, оборудованных компьютерами. Средняя зарплата по вашему хозяйству составляет 290 тысяч рублей, и только определенные механизаторы получают по 800–900, а остальные им завидуют. Во всех базовых предприятиях Брестчины зарплата выше, чем у вас. Мы не имеем права закрывать глаза на то, что происходит в орденоносном хозяйстве. Владимир Леонтьевич отработал свое. Он отдал вам все: ум, опыт, силы и волю. «Советской Белоруссии» нужна новая кровь…»*

Как важно уйти вовремя. С этим Владимир Леонтьевич опоздал. Но никто не отнимет у него те 50 лет, когда он руководил колхозом «Советская Белоруссия», дорогу в который знали не только высокие партийные чины, но и знаменитые деятели искусства, культуры, литературы…

Я не сомневаюсь в том, что в Каменецком районе, почетным гражданином которого был объявлен Владимир Леонтьевич, когда-нибудь появится улица его имени. Как появится в Кировске улица имени Василия Старовойтова. Дай бог долгих лет здоровья Федору Петровичу Сенько – в Гродно будет когда-нибудь улица и его имени. Может исчезнуть, быть расформированным хозяйство, которым они руководили, но это вовсе не означает, что исчезнет память о них. Это лишь в старых стихах классиков, оставшихся в прошлой эпохе, мужик – «дурны мужык», или «пан сахі і касы». Эти мужики были летающими.

**Александр ФЕДУТА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 1 ЖНІЎНЯ 2017 г.

ДАТА

# Праўнучка Ігната Дамейкі прыляцела ў Мінск

*31 ліпеня споўнілася 215 гадоў з дня нараджэння навукоўца-мінеролага, геолага Ігната Дамейкі, ураджэнца вёскі Вялікая Мядведка Навагрудскага павета Мінскай губерні, удзельніка таварыстваў філаматаў і філарэтаў і паўстання 1830–1831 гадоў, нацыянальнага героя Чылі.*





Каб адсвяткаваць гэту дату, у Мінск прыляцелі праўнучкі Ігната Дамейкі – Паз і Сесілія і іншыя родныя. Госці возмуць удзел у навуковай канферэнцыі "Геалогія і мінеральныя рэсурсы захаду Усходне-Еўрапейскай платформы", прысвечанай юбілею Ігната Дамейкі, якая будзе праходзіць у Нацыянальнай акадэміі навук па 3 жніўня.

Урачыстасці распачаліся 31 ліпеня святой імшой у Чырвоным касцёле з удзелам прадстаўнікоў Чылі.

*"Я вельмі ўсхвалявана цырымоніяй*, – сказала сеньёра Паз Дамейка, праўнучка Ігната Дамейкі. – *Мне вельмі прыемна бачыць яго партрэт у касцёле. Дон Ігнацыё быў добрым мужам і сем'янінам, таму ў яго ў Чылі шмат нашчадкаў, сям'я даволі вялікая. Апошнія 20 гадоў я прысвяціла даследаванню жыцця майго прадзеда. Пасля таго як я перанесла аперацыю і некалькі імгненняў перажывала клінічную смерць, дон Ігнацыё прыцягнуў мяне да сябе. Калі я прыйшла ў прытомнасць, то вырашыла, што буду даследаваць яго жыццё. Я паехала на Беларусь, у Літву, Францыю, Чылі. На іспанскай мове я напісала кнігу, якая была выдадзена ў Чылі і перавыдадзена па-англійску ў Аўстраліі, дзе я жыву. Прэзентацыя кнігі адбудзецца на Беларусі гэтымі днямі. Самымі шчаслівымі, поўнымі падарожжаў і прыгод былі апошнія 20 гадоў майго жыцця, якія я прысвяціла майму прадзеду. У кнізе я імкнулася паказаць поўнату яго асобы. Ён быў рамантыкам і адначасова рэлігійнай асобай, навукоўцам, добрым бацькам. Таму ў Чылі і ў іншых кутках свету жыве шмат яго праўнукаў*".

Пра экспедыцыю ў Чылі прадстаўнікоў Беларусі, якая адбывалася ў 2012 годзе, распавеў касцельны актывіст **Леанід Галубоўскі**. Выкладчыкі геаграфічнага факультэта БДУ адправіліся ў Чылі разам з рэктарам Абламейкам, наведалі ўніверсітэт у Сант'яга. Капсула з зямлёй з Беларусі была дастаўлена ў радавую спачывальню сям'і Дамейкаў у Сант'яга. З Чылі на Беларусь таксама была дастаўлена капсула з зямлей.

У Чылі вельмі шануюць даследчыка-мінеролага, прафесара Ігната Дамейку, які ў свой час стаў рэктарам універсітэта ў Сант'яга.

Імя Дамейкі носіць вулканічны ланцуг гор у Андах; мінерал дамейкіт; фіялкавая кветка дамейкона; малая планета 2784 Domeyko; шэраг аб'ектаў тапанімікі і грамадскіх устаноў па ўсім свеце.

У Чылі ёсць невялікае мястэчка Дамейка ў адміністрацыйным рэгіёне Атакама, паміж гарадамі Ла-Сэрэна і Вальенар, у якім жыве каля 1 тысячы жыхароў. Пуэрта-Дамейка – порт Дамейкі на паўднёва-заходнім беразе возера Льянкіуэ – другога па велічыні возера ў Чылі. Lugarejo Domeyko – пасёлак каля порта Дамейка. У Сант'яга стаіць помнік «Грандэ Эдукатору». У яго гонар названы вуліцы ў Сант'яга-дэ-Чылі, Вальпараіса і яшчэ ў васьмі гарадах Чылі, а таксама ў Вільнюсе, Мінску і Навагрудку.

*"Я вельмі ўсцешаны фактам, што каталіцкі касцёл Чылі распачаў падтрыхтоўчую працу да кананізацыі Ігната Дамейкі*, – адзначыў ксёндз **Уладзіслаў Завальнюк** у дзень юбілею слыннага выхадца з Беларусі. – *Яшчэ адзін сын нашага народа пасля Эдварда Вайніловіча можа стаць блаславёным".*

**Эла ДЗВІНСКАЯ.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Буякі ад «Сіняй птушкі» Мікалая Рубана



Мікалай Рубан (справа) кажа гасцям з украінскага горада Роўна: "Лепшай ягады, чым буякі, няма".

Ганцавіцкі фермер Мікалай Рубан – мой даўні знаёмы. Яго гаспадарцы амаль дваццаць гадоў. Пачыналася ўсё з прагі да новага, нязведанага. Навуковыя праекты па вырошчванні журавін на Палессі плёну не давалі, як і ўсё, што робіцца па разнарадцы, пад прымусам. Кандыдат сельскагаспадарчых навук Мікалай Рубан звольніўся з Батанічнага саду Акадэміі навук Беларусі і вырашыў стаць шараговым фермерам.

Разам з сынам Яўгенам выбралі рамантычную назву для прыватнай гаспадаркі – "Сіняя птушка" – і вызначылі профіль – ягаднікі. Палескія глебы найбольш падыходзяць для вырошчвання буякоў. Каб займець першую плантацыю, Мікалай двойчы ездзіў у Германію, працаваў на 29-м кіламетры дарогі Брэмен–Гановер, на палях у баўэра Фрэда Васермана, а той разлічваўся чаранкамі буякоў. Каб распачаць справу, першыя саджанцы гадаваў у агародзе каля хаты.

Спачатку ўлады выдзелілі 12 гектараў у дзікаватым месцы: зараснікі асінніку, хмызнякі. Сваякі, якія прыехалі на агледзіны, жахнуліся:

– Якія ягаднікі?! Тут жа лесапавал трэба наладжваць.

Рубан-малодшы зараз узгадвае, што ў яго тады аптымізм упаў да нуля. Аднак Мікалай Мікалаевіч – чалавек моцнай волі, яснага бачання перспектывы. Каб супакоіць сваякоў, пачаў маляваць карціну будучага: як будуць размешчаны рады, дзе з'явіцца альтанка для адпачынку, як жанчыны ў белых хустках збіраюць буякі…

Вясной 1999 года высадзілі першыя 25 радоў буякоў.

Зараз у "Сіняй птушкі" больш за сто гектараў ягаднікаў, і кожны год іх колькасць павялічваецца.

Пытаюся, а чаму ж выбралі буякі?

– Як навуковец я займаўся журавінамі, але і пра буякі многае ўведаў. У ЗША пад гэтай ягадай заняты велізарныя плошчы. Там перакананы, што гэта – цуд прыроды. Амалоджвае, засцерагае, чысціць арганізм, да таго ж вельмі смачная. Мне падумалася: чамусьці ж англічане аддаюць перавагу "ролс-ройсам", а не ламачынам кшталту "Масквіча". То і беларусаў трэба прывучаць к найлепшаму.

**– Мяркуючы па вашым вопыце, Мікалай Мікалаевіч, фермерскую справу магчыма наладзіць і без капіталу?**

– У маім выпадку капіталам сталі веды і апантанасць. Веды, без сціпласці, багатыя. Таму я зараз кажу арганізатарам адукацыі, што згодны чытаць лекцыі за сімвалічную плату, не дзеля заробку. Не пра ўсё на свеце, а канкрэтна па той справе, якой я з сынам займаюся.

**– Не баіцеся канкурэнцыі?**

– Мне невядома, што гэта такое – боязь канкурэнцыі. У "Сіняй птушцы" любы жадаючы можа набыць неабходную колькасць саджанцаў розных гатункаў. Мы займаемся гэтай справай сур'ёзна, без ніякага падману. А ёсць і такое. Неяк у Пінску на кірмашы мясцовыя гаспадарнікі наладзілі продаж саджанцаў, прыгожых, вялікіх і таннейшых, чым нашы. Зразумела, што пакупнікі аддалі ім перавагу. Той прадавец яшчэ і пасміхаўся ўголас: бачыце, у нас дзяржаўнае – таннае і прыгожае, а ў фермера-прыватніка – і горшае, і даражэйшае.

А я ж бачу, што гэты прайдзісвет-насмешнік гандлюе такім гатункам буякоў, якія вымярзаюць, не вытрымліваюць марозу нават у дзесяць градусаў. Што мне з ім, вайну тут распачынаць? Потым яму растлумачыў, што не трэба бачыць у маёй асобе выключна канкурэнта, я шчыра перажываю і многа раблю, каб цудоўнай ягады хапала ўсім. Мне па душы партнёрства, а не гвалтоўнасць у бізнес-адносінах. Але ж хіба дакажаш кепска выхаваным людзям з першага разу? Мо з другога, трэцяга ўдасца?

**– Мікалай Мікалаевіч, але ствараецца ўражанне, што рынак свежых буякоў насычаны, да таго ж кошт не ўсякаму даступны. Выходзіць, са збытам ёсць праблемы?**

– Ведаеце, наша мужчынскае шчасце ў тым, што ніколі ад праблем у любой справе не ўцячэш. Знікнуць адны, з'явяцца другія. Некалі на заробках у Германіі са мной быў сябра з Брэсцкага раёна Міхась. Ён часам разважаў так, як тая жанчына ў анекдоце: дзіця ў яе яшчэ не нарадзілася, а яна плача, што будучы сынок будзе бегчы, зломіць руку ці нагу, і яму будзе вельмі балюча. Так і ён: вырашчу ягаду, а каму яе прадам? Супакойваў яго: збярэш два-тры-дзесяць вядзёр – прадасі на базары шклянкамі, назбіраеш на фуру – да цябе пакупнікі самі прыедуць, вырасціш ураджай на дзесяць фур – да цябе чарга будзе стаяць.

Першыя ягады мы прапаноўвалі крамам, а яны насы адварочвалі: што вы нам прывезлі нейкі чарнобыльскі мутант чарніц?! Не трэба нам ён!

Бралі пакрысе з умовай: калі не прададзім – вернем назад, сапсуецца – вы нам яе замяніце. Мы цярпелі, неслі страты, але ад свайго не адступалі. Хаця ўмовы былі прымітыўнейшыя: узважвалі ягады на старажытных вагах, уручную ляпілі этыкеткі на пакункі.

Нармальны гандлёвы працэс пачаўся недзе ў 2008 годзе, калі мы заключылі дамовы з гандлёвымі фірмамі. Зараз за сезон "Сіняя птушка" рэалізуе ў Мінску каля 30 тон буякоў.

**– Мікалай Мікалаевіч, ведаю, што вы не вельмі любіце гаварыць пра рэнтабельнасць, прыбытак…**

– А хто любіць? Той, каму трэба, ведае ўсё да драбніц. У мяне ёсць сябар-аднакурснік, які не-не ды і пытаецца пра гэта. Кажу яму: ты, як мая жонка. А навошта табе забіваць галаву, у цябе што, грошай у хаце няма?.. Жарты жартамі, а гектар ягаднікаў у нашым раёне дае большую аддачу, чым пад астатнімі культурамі. Хаця мы таксама цярпім ад замаразкаў, спякоты, вымушаны наладжваць кропельны паліў, калі трэба, а гэта ўсё выдаткі.

Абыходзімся без крэдытаў. Год-два збіраем грошы, потым купляем патрэбнае. Так надзейней.

**– Як вы ставіцеся да фермерскіх асацыяцый?**

– Станоўча. У Брэсцкай вобласці дзейнічае асацыяцыя. Карысная арганізацыя.

**– Якой бачыцца будучыня "Сіняй птушкі"?**

– Наш клопат зараз – навучыцца і арганізаваць перапрацоўку ягад, што не паспелі рэалізаваць. Ёсць розныя тэхналогіі: сушыць, падвяльваць, кансерваваць, ціснуць сокі, замарожваць, вучыцца вінаробству, даваць сыравіну для дзіцячага харчавання. Пастулова падводзім гаспадарку да гэтых тэхналогій, бо рынак свежых ягад усё-такі абмежаваны.

**– Фермерскі базар – ці патрэбны ён?**

– На гэту тэму складана гаварыць. Фермерскі клопат – даваць ураджай. А гандаль – зусім другая сфера. Ёй павінен займацца той, хто валодае ўсімі сакрэтамі справы. Фермер – найперш аграном, заатэхнік, ветэрынар. Сумяшчаць вытворчыя справы з гандлёвымі цяжка.

Калі ў фермера ёсць талковыя сваякі, то гэта шчаслівы выпадак, няхай едуць на машыне ў горад і прадаюць усё, што вырасцілі.

Дзейнічае і фактар аб'ёму тавару. Пакуль ён на ўзроўні вядра, кошыка, гэта дробязі, а калі фура, і не адна, то з'яўляюцца іншыя клопаты.

Тое, што ў мінскім цэнтры "Экспабел", як вы гаворыце, "Фермерскі базар" і на палову не запоўнены, сведчыць аб сур'ёзных праблемах у фермерскім руху.

**Мікалай ЗЯНЕВІЧ.**

*Ганцавіцкі раён.*

**P.S.** Калі хто не ведае, буякі альбо дурніцы па-беларуску – гэта *голубика* па-руску.

ЗДАРЭННІ

# Хто страляў у тралейбус?

У ноч з 27 на 28 ліпеня ў Гродне быў пашкоджаны тралейбус, побач з якім на вялікай хуткасці праехаў цёмны легкавы аўтамабіль. На заднім шкле грамадскага транспарту засталіся невялікія адтуліны. Відавочцы чулі гукі, характэрныя для выстралаў з пнеўматычнага пісталета. Ніхто з пасажыраў не атрымаў пашкоджанняў. Міліцыя праводзіць праверку.

У вёсцы Каўшова Мастоўскага раёна 24-гадовы вясковец выпіваў з сябрамі і дзеля забавы дзевяць разоў выстраліў з пнеўматыкі ў бяздомнага сабаку. Выжыць таму дапамаглі неабыякавыя мясцовыя жыхары.

21 ліпеня стала вядома пра пашкоджанні 11 шклопакетаў Жамчужынскай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Хуліганства пры дапамозе пнеўматычнага пісталета здзейсніў 17-гадовы мясцовы жыхар.

З кожным годам выпадкі ўжывання пнеўматычнай зброі з хуліганскіх памкненняў фіксуюцца ўсё часцей. Напрыклад, 6 сакавіка ў Гродна былі затрыманы два маладыя чалавекі, якія прыехалі на аўто з мінскімі нумарамі і каля юрыдычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы некалькі разоў стрэлілі ў паветра з аўтаматаў, падобных па форме на аўтаматы Калашнікава. Як высветлілася, гэта была не агнястрэльная зброя. А ў маі 17-гадовы юнак у вёсцы Жытомля Гродзенскага раёна вечарам пашкодзіў з пнеўматычнага пісталета акно мясцовага аддзялення банка.

На жаль, таксама фіксуюцца здарэнні з нанясеннем пашкоджанняў чалавеку. Так, 15 жніўня 2016 года ў раёне вёскі Каробчыцы 29-гадовы аўтавадзіцель выстраліў з пнеўматычнага пісталета ў жывот веласіпедысту, палічыўшы, што той перашкаджае руху яго аўтамабіля.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

З ЮБІЛЕЕМ!

# Як адзначыў 60-годдзе Віктар Карнеенка?

*Палітык распавёў "Народнай Волі" пра тое, як яго павіншавалі з юбілейнай датай.*



– Прыехалі на юбілей нават з Гомеля, дзе прайшла вялікая частка майго жыцця, – *распавядае сустаршыня аргкамітэта па стварэнні грамадскай арганізацыі «За справядлівыя выбары»* ***Віктар Карнеенка.*** – Пасядзелі, паўспаміналі пра тое, што збылося і не збылося.

**– Што ўдалося зрабіць і што не атрымалася?**

– Калі б усё збылося, пра што я марыў, дык сёння мы ўжо жылі б у дэмакратычнай еўрапейскай Беларусі. Але пакуль знаходзімся ў нейкай Саюзнай дзяржаве. Так што, на вялікі жаль, больш з таго, што хацелася, не ажыццявілася. Хаця нешта ў жыцці і атрымалася.

Калі ўзгадваць пра здабыткі, то можна сказаць, што на пачатку 1990-х гадоў я меў непасрэднае дачыненне да стварэння клуба выбаршчыкаў. У свой час быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, дэпутатам Гомельскага гарадскога Савета, у Гомелі ўдзельнічаў пры стварэнні аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы"… Таму ёсць што ўспомніць.

**– 60 гадоў – гэта ўжо ўзрост?**

– Гэта не мала, хаця яшчэ ёсць здароўе і жаданне актыўна займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю.

**– А чым вы зараз займаецеся?**

– Працягваю палітычную дзейнасць у межах кампаніі "За справядлівыя выбары". Разам з паплечнікамі мы не даём уладам атрымаць чарговую "элегантную" перамогу. Калі знаходзім выпадкі фальсіфікацый, то агучваем факты для грамадства.

**– Але вернемся да юбілею. Калі не сакрэт, што вам дарылі?**

– Паколькі я вялікі аматар лазні, то шмат падарункаў было менавіта на гэтую тэматыку – займеў і венікі, і кадку.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Што чакае бацьку і сына Асіповічаў?

***На пачатку года ў Маладзечанскім раёне здарыўся сапраўдны скандал. Праваахоўнікі затрымалі спачатку дырэктара аграфірмы «Лебедзева» Аркадзія Асіповіча, а потым ягонага сына Віталія – кіраўніка фермерскай гаспадаркі. Абодва былі змешчаны ў следчы ізалятар. І з таго часу пра іх нідзе нічога не ўзгадвалася.***

***У якім стане зараз гэтая справа? Можа, бацька з сынам ужо на волі?***

Трэба адзначыць, што аграфірма "Лебедзева" – дзяржаўнае прадпрыемства і ў раёне на добрым рахунку. А яе кіраўнік Аркадзь Асіповіч асоба ў раёне знакамітая. Добры гаспадарнік, кандыдат сельскагаспадарчых навук! Сапраўды: ці многа кіраўнікоў сельскіх гаспадарак у краіне маюць вучоную ступень?!

На пасадзе дырэктара аграфірмы "Лебедзева" Аркадзь Асіповіч з 2009 года. Дарэчы, у свой час "Лебедзева" было стратным сельскагаспадарчым прадпрыемствам, аднак у 2004 годзе СГК адмысловай пастановай урада было перададзена РУП «Мінскэнерга» і пакрысе пачало ўставаць на ногі. Але менавіта апошнія гады, з 2008-га, "Лебедзева" – пастаянны лідар раённых спаборніцтваў, чыстыя прыбыткі гаспадаркі складалі мільярды недамінаваных рублёў, па выніках працы аграфірма "Лебедзева" штогод заносіцца на раённую Дошку гонару. І тут арышт дырэктара Асіповіча! А яшчэ праз некалькі дзён затрымалі і ягонага сына Віталія. Скандал!

Следчы камітэт паведаміў СМІ, што бацька з сынам дзейнічалі па папярэдняй змове. Аграфірма без узгаднення з "Мінскэнерга" купляла ў фермерскай гаспадаркі корм для цялят і ў выніку пераплаціла за тавар 5600 рублёў – прыкладна 2870 доляраў. Атрымліваецца, што бацька даў сыну незаконна зарабіць гэтыя грошы, а аграфірме адпаведна на гэтую суму быў нанесены матэрыяльны ўрон.

Асіповічаў змясцілі ў следчы ізалятар, прад'явілі абвінавачанне, па якім пагражае ад двух да шасці гадоў пазбаўлення волі.

– *Расследаваннем гэтай справы займаецца УСК па Мінскай вобласці,* – паведаміў начальнік інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта РБ **Сяргей КАБАКОВІЧ**. – *Усё, што зараз магу сказаць, гэта толькі тое, што расследаванне крымінальнай справы працягваецца і што на дадзены момант мера стрымання, якая прыменена да абодвух, не звязана з утрыманнем пад вартай.*

Ніякіх падрабязнасцяў гэтай гучнай справы не раскрываюць і на прадпрыемстве.

– *Я магу казаць толькі пра справы гаспадаркі, а яны ідуць нармальна, працуем, паказчыкі выконваем*, – кажа выконваючы абавязкі дырэктара аграфірмы "Лебедзева" **Ігар ГРЫБОЎСКІ**. – *Арышт дырэктара, канешне ж, быў шокам, але на агульных справах гэта не адбілася. Нікога не звольнілі беспадстаўна, заробкі выплачваем два разы на месяц. Сярэдняя зарплата па прадпрыемстве 750 рублёў. А што тычыцца справы Аркадзія Міхайлавіча – гэта пытанне не да мяне…*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА!

# Чтобы торговля не была обдираловкой, «Дарида» предлагает изменить закон…

Уже ни для кого не секрет, что в Беларуси торговля взяла в плен производителей продукции. На самом высоком уровне государства понимают, что диктат крупных торговых сетей, которые за последние годы опоясали страну, ведет не только к разорению поставщиков товаров и услуг, но и к неустанному раскручиванию цен и тарифов. Президент А.Лукашенко неслучайно както сказал: *«Я не против предпринимателей, я не против элементов существующей торговли, но я категорически против незаработанных денег… Я считаю, что деньги прежде всего должны получать те, кто товар производит, а торговля должна иметь свою какую-то маржу или долю от цены этого товара, но торговля не должна быть обдираловкой. Я подвожу к тому, что какое бы мы исследование ни проводили, народ больше всего беспокоит рост цен. Первое место – рост цен»*.

Давно пришло время внести серьезнейшие изменения в закон «О государственном регулировании торговли и общественного питания в Республике Беларусь». И его усовершенствование – это, пожалуй, задача номер один для парламентариев и Министерства антимонопольного регулирования. Известно, что со стороны производителей уже посыпалось множество конкретных предложений. Например, генеральный директор ЧП «Дарида» **Д.В.Неверович** адресовал постоянной комиссии Палаты представителей по жилищной политике, строительству, торговле и приватизации, а также Министерству антимонопольного регулирования и торговли специальное письмо, в котором содержится ряд серьезнейших предложений по регулированию взаимоотношений между производителями и сетевым ритейлом, исключающих саму возможность возникновения дискриминационных условий доступа товаров в торговые сети. В частности, «Дарида» предлагает включить в закон разъяснение термина «услуги по продвижению товара», а также определить четкие меры по контролю, ограничению и регулированию таких услуг. *«На наш взгляд,* – подчеркивается в письме Д.Неверовича, – *данные услуги должны составлять до 5 процентов от суммы поставляемой продукции, причем это должно относиться не только к услугам, но и ко всем видам бонусов, премий и компенсации логистических услуг»*.

В настоящее время существует разграничение договоров на поставку продукции и на оказание услуг по продвижению в реализации товара. Но в нашем законе не прописан вопрос о границе максимально допустимого вознаграждения производителем торговой сети, хотя у россиян четко сказано: совокупный размер вознаграждения, выплачиваемого хозяйствующему субъекту, осуществляющему торговую деятельность, в связи с приобретением им у хозяйствующего субъекта, осуществляющего поставку продовольственных товаров, определенного количества продовольственных товаров и платы за оказание услуг по продвижению товаров, логистических услуг, услуг по подготовке, обработке, упаковке этих товаров, иных подобных услуг не может превышать пять процентов от цены приобретенных продовольственных товаров. Именно такую формулировку, считает Д.В.Неверович, нужно включить в наш закон.

При этом руководители и специалисты «Дариды» предлагают для полноценного исполнения данного требования дополнить Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях нормой, устанавливающей штраф на нарушивший данное требование объект торговли в размере полученного от производителя товара бонуса (премии, иного вознаграждения за продвижение товара). Штраф должен оплачиваться в доход государства, а необоснованно оплаченный бонус (премия, иное вознаграждение) возвращаться производителю товара.

В качестве одного из основных способов обеспечения исполнения антимонопольного законодательства предлагается ограничить торговую надбавку сетям – она должна быть не более 30 процентов от стоимости реализованных товаров.

В письме Д.В.Неверовича говорится, что «Дарида» вынуждена ежедневно сталкиваться с проблемой получения оборотных средств. Несмотря на ограничение законом сроков оплаты реализованной продукции, торговля постоянно их нарушает, раньше 60–80 календарных дней с момента поставки безалкогольных напитков и минеральной воды деньги не перечисляются, хотя продается продукция примерно в течение двух недель.

Так, *«по состоянию на 01.07.2017 удельный вес просроченной дебиторской задолженности в общем объеме дебиторской задолженности частного предприятия «Дарида» составляет более 21 процента». «В результате наше предприятие столкнулось с дефицитом оборотных средств, что привело к снижению платежеспособности, нарушению расчетов с поставщиками сырья»*, – пишет Д.Неверович.

В целях предупреждения нарушения законодательства о торговле «Дарида» предлагает включить в Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях норму, *«устанавливающую штраф за наличие просроченной дебиторской задолженности более трех раз в течение календарного года на сумму свыше 5 процентов от просроченной дебиторской задолженности. Данный штраф будет оплачиваться в республиканский бюджет должниками»*.

В настоящее время отечественные производители в состоянии обеспечить весь ассортиментный перечень товаров. Несмотря на это, ассортимент импортной продукции в торговых объектах стремительно растет и, прямо скажем, она занимает лучшие места на полках белорусских магазинов, это особенно заметно в торговых сетях. Отечественным производителям крайне непросто попасть на полку торговой сети, что, безусловно, способствует расширению ассортимента импортных товаров. Как результат: это приводит к выводу валютных ресурсов за пределы страны. Используя такие методы, сети активно продвигают зарубежные бренды, тем самым вытесняя с белорусского рынка отечественного производителя. Это приводит к снижению объема производимой и реализуемой продукции отечественных производителей, в результате чего происходит недополучение налогов в бюджет нашей страны, сокращение рабочих мест на отечественных предприятиях, невыполнение социальных программ развития.

С учетом интересов белорусского государства руководство «Дариды» полагает, что целесообразно указать в законе ограничение *«занимаемой импортными товарами доли в выкладке на полках в торговых объектах из расчета: 80 процентов – отечественный товар, причем это должны быть «лучшие» полки, места дополнительных продаж, а 20 процентов – импортный товар»*.

Когда-то на встрече с председателем совета директоров ООО «Табак-инвест» Александр Лукашенко заявил о необходимости более активного продвижения объектами торговли товаров белорусского производства: *«Если в Беларуси есть товар (отечественный аналог импортного), он должен быть выгодно представлен в любом магазине. Некоторые сегодня стонут, плачутся, что у нас, мол, нет того товара, как за границей. А я спрашиваю: есть ли у вас валюта для того, чтобы закупить этот товар и продать, ведь мы вывозим валюту. Поэтому надо и это иметь в виду… Я не против импортного, но выгодно представьте и наш товар»*.

Сам собой напрашивается вывод: нужно дополнить Закон Республики Беларусь «О государственном регулировании торговли и общественного питания в Республике Беларусь» следующим пунктом:

*«Объекты торговли обязаны обеспечить восемьдесят процентов от доли в выкладке на полках в торговых объектах товарами белорусских производителей.*

*При этом товар белорусских производителей должен располагаться по маршруту движения покупателей в торговом объекте на уровне от 0,5 до 1,6 м от пола».*

*«Можно до бесконечности перечислять дискриминационные условия, в которые сегодня поставлены отечественные производители,* – подчеркивается в письме Д.В.Неверовича, – *но мы считаем необходимым выделить лишь некоторые из них, на которые, на наш взгляд, стоит обратить внимание.*

*Как правило, крупные торговые организации во взаимоотношениях с поставщиками товаров используют два механизма воздействия, способные повлиять на уровень конкуренции на товарном рынке:*

*1) финансовый – бонусы (премии), плата за маркетинговые услуги, гарантированная скидка;*

*2) административный – возврат нереализованного товара, запрет заключать договор с другим получателем товаров на аналогичных условиях и так далее.*

*Примерами дискриминационной и невыгодной для производителей политики торговых сетей в договорах поставки являются:*

*– большая (более 45 дней) отсрочка платежей за реализованный товар, представляющая собой беспроцентный коммерческий кредит (заем);*

*– обязательство оплачивать услуги по замене товара, имеющего низкий уровень продаж;*

*– право субъекта торговли на одностороннее расторжение договора поставки и прочее».*

Безусловно, под письмом «Дариды» могли поставить свои подписи руководители и специалисты сотен других предприятий, производящих ту или иную продукцию. И наверняка на столах законодателей и чиновников Министерства антимонопольного регулирования и торговли подобных обращений немало. Очень важно, чтобы к их рассмотрению они подошли с государственной ответственностью.

**Андрей КУСЕНКОВ.**

НЕСТАНДАРТ

# Новапалачане праехалі на роварах 350 кіламетраў




Маршрут жыхары Наваполацка Арцём Дубко, Ілля Чырлянок, Кацярына Клюева, Дзмітрый Васіленка і Георгій Лашкевіч склалі загадзя. Першапачаткова геаграфія паездкі планавалася шырэй, але з-за занятасці шлях прыйшлося скараціць. З Віцебскай вобласці праз лясы і вёскі вандроўнікі дабраліся да Мінскай вобласці, а потым да Гродзеншчыны.

Сілкаваліся і начавалі маладыя людзі пад адкрытым небам.

*– Маршрут выбіралі з мэтай паглядзець цікавыя месцы,* – сказала «Народнай Волі» Кацярына Клюева. *– Помнікі архітэктуры, прырода, рэкі, азёры і гэтак далей. Язду на роварах сумясцілі з культурным баўленнем часу. Пару разоў мы снедалі ў сталовай, на працягу дня – лёгкія перакусы, а ўжо вячэру гатавалі на вогнішчы.*

Стомленасць ад дарогі каштавала таго, каб паглядзець Беларусь: прыродны скаладром, касцёл у Гервятах Гродзенскай вобласці, разбураная сядзіба ў вёсцы Сітцы на Віцебшчыне і іншыя аб'екты.

Беларусь часам называюць маленькай краінай, але, на думку жыхароў Наваполацка, гэта не зусім так.

*– Я гэта зразумела, калі першапачаткова мы планавалі паход толькі па Гродзенскім рэгіёне,* – кажа ўдзельніца паездкі. *– Купіла турыстычную мапу, каб пазначыць аб'екты для наведвання. І калі пачала загінаць пальцы, то атрымаўся вельмі вялікі кіламетраж, а каб усё наведаць, трэба не менш за тыдзень. На наступны сезон мы пачалі ўжо вывучаць маршрут. Адным словам, у Беларусі ёсць на што паглядзець.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ЗВАНОК З РЭДАКЦЫІ

СКАЗАНА!

Пётр КРАЎЧАНКА, экс-міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь:



**– Я не ведаю, як мы можам выхаваць новае пакаленне, калі мая ўнучка будзе вывучаць беларускую гісторыю на рускай мове?**

**(Падчас выступлення 15 ліпеня на З'ездзе беларусаў свету.)**

# Спадарыня Каржова, а ці не лепей было б, каб усе школьнікі вывучалі гісторыю і геаграфію сваёй краіны па-беларуску?

– У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, артыкулам 90 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі асноўнымі мовамі навучання і выхавання ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца дзяржаўныя мовы Рэспублікі Беларусь – руская і беларуская. Дзяржава гарантуе грамадзянам магчымасць выбару навучання і выхавання на адной з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь і стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права, – *патлумачыла намеснік начальніка Упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства* **Ірына Каржова.** – Мова навучання і выхавання ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі, у тым ліку і пры вывучэнні вучэбных прадметаў "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія", вызначаецца заснавальнікам установы адукацыі з улікам пажаданняў навучэнцаў (законных прадстаўнікоў непаўнагадовых навучэнцаў).

Вучэбныя прадметы "Гісторыя Беларусі" (VI–XI класы), "Геаграфія" (раздзел "Геаграфія Беларусі", X клас) ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання выкладаюцца на беларускай мове, ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання – на рускай мове. У адпаведнасці з рэкамендацыямі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання дадзеныя вучэбныя прадметы могуць выкладацца на беларускай мове.

Пачынаючы з 2012 года Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь вывучаецца запатрабаванасць устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання, вучні якіх жадаюць вывучаць вучэбны прадмет "Гісторыя Беларусі" на беларускай мове, што ўлічваецца пры фарміраванні тыражу падручнікаў па дадзеных вучэбных прадметах. Напрыклад, у 2016/2017 навучальным годзе гісторыю Беларусі на беларускай мове пажадалі вывучаць 22.740 вучняў (у 2015/2016 навучальным годзе – 18.760).

*Прыемна, што школьнікаў, якія выбіраюць беларускую мову пры вывучэнні гісторыі сваёй краіны, з кожным годам становіцца болей, але, на жаль, чыноўніца не адказала на галоўнае пытанне: ці будзе Міністэрства адукацыі спрыяць таму, каб нарэшце ўсе школьнікі, а не толькі невялічкая частка, вывучалі гісторыю і геаграфію сваёй краіны па-беларуску? Што робіць у гэтым накірунку ведамства? Ці прадстаўніцы Мінадукацыі проста няма чаго адказаць на слушную заўвагу Пятра Краўчанкі?!*

У ТЭМУ

Іван Пясенка, настаўнік гісторыі:

## «Думаю, пераходны перыяд заняў бы два-тры гады…»

*А як ставяцца да прапановы вярнуць выкладанне гісторыі Беларусі па-беларуску ў саміх школах? Ці гатовы да гэтага вучні, ці падрыхтаваны настаўнікі?*

*Сваё меркаванне выказвае настаўнік гісторыі і грамадазнаўства гімназіі №3 горада Бабруйска* ***Іван Пясенка****.*

– Сёння амаль паўсюдна гісторыя Беларусі выкладаецца па-руску. Толькі ў вёсках і там, дзе яшчэ захаваліся беларускамоўныя школы, выкладанне ідзе на роднай мове, – *кажа Іван Эдуардавіч.* – Але ж падручнікі ёсць як рускамоўныя, так і беларускамоўныя, ёсць контурныя карты, сшыткі беларускамоўныя, таму вялікай праблемы перайсці на выкладанне гісторыі Беларусі па-беларуску, мяркую, няма. Але з чым сутыкнуўся, напрыклад, асабіста я.

Для мяне выкладаць гісторыю па-беларуску – не праблема, я, безумоўна, прыхільнік гэтай ідэі, лічу, што гісторыю сваёй краіны беларусы мусяць вучыць па-беларуску. Я вучыўся на беларускамоўным аддзяленні гістфака БДУ, была б мая воля – выкладаў бы гісторыю толькі па-беларуску. Але большасць дзяцей, бацькоў выбіраюць рускую мову. Іх аргумент вельмі просты: навошта майму дзіцяці вучыцца на мове, калі ў нас няма беларускамоўных сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Ды і на бытавым узроўні рэдка гучыць беларуская мова. Таму працэнт дзяцей, якія свядома выбіраюць беларускую мову, на жаль, невялікі.

**– Але такія дзеці ёсць?**

– У гімназіі я працую чацвёрты год. Сустракаюцца школьнікі, якія вядуць канспекты па-беларуску, іспыты за 11-ы клас па гісторыі Беларусі здаюць на беларускай мове. У гэтым годзе было некалькі такіх вучняў, і трэба адзначыць, што адказвалі яны вельмі добра і атрымалі высокія адзнакі.

**– На ваш погляд, ужыванне, так бы мовіць, адміністрацыйнага рэсурсу ў дадзеным пытанні дапушчальна? Няўжо нехта моцна супраціўляўся б загаду Мінадукацыі вярнуць у школу выкладанне гісторыі Беларусі па-беларуску?**

– Ёсць вучні, бацькі якіх прынцыпова не жадаюць, каб яны навучаліся па-беларуску. Але я думаю, што калі б агульны настрой у грамадстве быў скіраваны на беларусізацыю, пакрысе сфера ўжывання беларускай мовы не толькі ў школе, але і паўсюдна пашыралася б. Я памятаю, калі яшчэ сам вучыўся ў школе, да нас у клас прыйшоў хлопец, які жыў у Казахстане і ніколі не вывучаў беларускую мову. Яму хапіла аднаго года, каб і размаўляць, і амаль без памылак пісаць па-беларуску.

На мой погляд, і зараз пераходны перыяд заняў бы год-два, і ўсё ўсталявалася б. І трэба гэты крок рабіць. Новы міністр адукацыі сам гісторык, таму, як кажуць, яму і карты ў рукі.

ШТРЫХ

## Добрыя намеры…

Ідэя вывучэння гісторыі Беларусі на беларускай мове – не навіна. Да 2006 года менавіта на роднай мове ва ўсіх школах краіны выкладаліся гісторыя і геаграфія Беларусі. Аднак потым Міністэрства адукацыі дазволіла выкладаць гэтыя прадметы па-руску. Тады міністрам адукацыі быў **Аляксандр Радзькоў**, які вучыўся з Аляксандрам Лукашэнкам у Магілёўскім педінстытуце, а пасля адстаўкі з пасады міністра стаў першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (зараз ён узначальвае грамадскае аб'яднанне "Белая Русь"). Такім чынам з 2006 года бацькам было прапанавана самім вызначацца з тым, на якой мове іх дзеці будуць вывучаць гісторыю і геаграфію Беларусі. Ініцыятыва прывяла да таго, што хутка ў рускамоўных школах беларуская мова амаль цалкам знікла з урокаў гісторыі. Многія настаўнікі прызнаюцца, што апошнім часам у бацькоў ужо ніхто і не запытваецца, па-руску ці па-беларуску выкладаць гісторыю Беларусі, таму што ўпэўнены, што перавага будзе на карысць рускай мовы.

Аднак складваецца ўражанне, што кожны наступны пасля Радзькова міністр адукацыі ставіў перад сабой задачу вярнуць выкладанне гісторыі Беларусі выключна на беларускую мову.

Не зразумела, праўда, што ім замінала гэта зрабіць.

**Сяргей МАСКЕВІЧ, міністр адукацыі ў 2010–2014 гадах:**

*– Такая задача ўжо пастаўлена, і мы будзем імкнуцца да таго, каб ужо з новага навучальнага года беларуская мова вярнулася на ўрокі па гісторыі і геаграфіі роднага краю.*

(У інтэрв'ю газеце "Звязда", сакавік 2012 года.)

**Міхаіл ЖУРАЎКОЎ, міністр адукацыі ў 2014–2016 гадах:**

*– Мы параімся з выкладчыкамі школ, прадстаўнікамі раённых аддзелаў адукацыі. Ёсць пэўны пералік прадметаў, якія, бясспрэчна, неабходна выкладаць на беларускай мове. Таму што трэба разумець родную мову, і гаварыць пра гісторыю Беларусі на іншай мове – няправільна. Такое наша меркаванне, і мы гэта ўвядзём.*

(Падчас прэс-канферэнцыі, студзень 2015 года.)

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
1 ЖНІЎНЯ 2017 г.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## «Калі я на пошце служыў ямшчыком»



Хто з вас, шаноўныя чытачы, не ведае гэту песню! Праўда, гучыць яна на рускай мове. А першапачаткова словы яе былі напісаны на беларускай. Аўтарам іх з'яўляецца наш знакаміты паэт тых далёкіх часоў Уладзіслаў Сыракомля. Гэта ён у 1844 годзе надрукаваў у віленскім часопісе "Атэнэум" верш "Паштальён" беларускага паэта Уладзіслава Сыракомлі (пісаў ён на беларускай і польскай мовах). У аснове верша – здарэнне, пачутае аўтарам у мястэчку Мір (цяперашняга Карэліцкага раёна), дзе ён паблізу жыў у арандаваным фальварку.

З польскай на рускую мову верш пераклаў Леанід Трэфалеў з Яраслаўля. Нехта напісаў на яго музыку. Так з'явілася гэтая вельмі папулярная ў народзе песня. Выконвалі яе Фёдар Шаляпін, Лідзія Русланава, Сяргей Лемешаў і іншыя. Вельмі было б добра, каб яна загучала і на беларускай мове, мове той зямлі, адкуль яна вылецела ў свет. Падаю яе тэкст у сваім перакладзе.

**Кастусь ЦВІРКА.**

*Калі я на пошце служыў ямшчыком,*
*Нідзе не было мне спачыну.*
*І моцна тады – быў жа я юнаком –*
*Кахаў з нашай вёскі дзяўчыну.*

*Не думаў, браткі, я тады пра бяду,*
*Пра мілую сніў безупынку.*
*Куды ні паеду, куды ні пайду,*
*Я к ёй заверну на хвілінку.*

*Калі ж не пабачу – няміла мне свет,*
*У сэрцы не гасне каханне.*
*Аднойчы дае мне начальнік пакет –*
*На пошту адвесці да рання.*

*Да любай забег, але дома не стрэў:*
*У горад пайшла яшчэ ўчора.*
*Я сеў на каня і за ёй паляцеў*
*Снягамі той ночкі бяззорай.*

*Выў вецер, мяцеліца ў полі гула,*
*Сціскалася сэрца ў трывозе.*
*І раптам каня бы працяла страла:*
*Падскочыў і стаў пры дарозе.*

*Стаіць і дрыжыць верны конь мой ды ўбок*
*Вачамі ўсё водзіць пужліва.*
*Туды, дзе якісьці малы курганок*
*Снягі намялі: што за дзіва?*
*Саскочыў з каня і туды я падбег*
*Пад посвіст вятроў ашалелых.*
*Рукамі разгроб злядзянелы той снег*
*І ў жаху застыў, анямелы.*

*Пад снегам, браточкі, ляжала яна.*
*Падняў я яе, нежывую…*
*Наліце ж, наліце барздзэй мне віна:*
*Расказваць далей не магу я!*

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# И воскресная школа нужна, и храм требует ремонта

Уважаемый Иосиф Павлович!

Обращаюсь к Вам я, настоятель храма Рождества Христова в деревне Задомля Борисовского района. Искренне надеюсь на Ваше понимание и поддержку.

Наш приход является православной общиной, которая призвана вести духовное просвещение среди местного населения, а также жителей прилегающих деревень: Багута, Батуринка, Мостище, Рудомейка, Грудок, Ляды, Прилепы, Аношки, Кудрищино, Пристромы, Прилепская Усяжка, Рудня, Вишня, Дуброва. В центре нашей заботы – молодые и многодетные семьи, люди, попавшие в сложные жизненные обстоятельства и особо нуждающиеся в духовном попечении.

Центром социального служения нашей общины является духовное просвещение детей, поэтому приход нуждается в строительстве воскресной школы. В данный момент отсутствует постоянное помещение для проведения занятий. Сегодня жизнь прихода сосредоточена в небольшом храме, площадь которого уже не позволяет динамично развивать просветительские проекты, и мы остро нуждаемся в развитии приходской инфраструктуры.

Также остро нуждаемся в ремонте кровли храма, замене купола с крестом и основания, в помощи по оплате работы (услуг) подрядчиков.

Рады будем, если кто-либо из читателей «Народной Воли» откликнется и поможет пожертвованиями. Наши реквизиты: 222201 Минская область, Смолевичский район, д.Задомля. УНП 600397154 р/с BY07AKBB30150621000326200000 в ЦБУ №621 филиала №612 АСБ «Беларусбанк» БИК AKBBBY21612.

**С уважением – Отец Владимир СТАШКЕВИЧ, настоятель прихода, священник.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

## Почему Татарстан не русифицировался, а в Беларуси исчезает национальный язык?

В «Народной Воле» многие авторы заостряют внимание на том, что нужно спасать белорусский язык. А вот не приходила им в голову такая параллель: Татарстан находится в центре России, но никто из коренного населения не кричит о русификации, об исчезновении татарского языка.

Второй пример. В последние годы идет активное возрождение украинского языка у наших юго-восточных соседей. И не потому, что власть разработала какие-то особые меры. Сам народ этого хочет.

А кто запрещает белорусам пользоваться родным языком? Кто запрещает родителям отдавать своих детей в белорусскоязычные школы? Кто запрещает подписываться на газеты, в которых присутствует национальный дух?

Если вы честно ответите на эти вопросы, то вам станет понятно, почему Татарстан не русифицировался, а в Беларуси исчезает национальный язык.

**Виктор КИСЕЛЕВ.**
*г.Пинск.*

МНЕНИЕ

# Автостраховка должна быть только на добровольных началах



Давайте порассуждаем о навязанной государством автолюбителям обязательной страховке личного транспорта. Я считаю, что принятие этого закона нарушает наши права и не согласуется с декларируемыми в юриспруденции принципами презумпции невиновности. Законопослушный гражданин не обязан отвечать своим кошельком за последствия неправильного поведения на дорогах водителей-нарушителей.

Дисциплинированный, опытный водитель, а таких большинство, никогда не спровоцирует (тьфу-тьфу!) аварийную ситуацию на дороге. Это подтверждается практикой его многолетнего управления автомобилем. И за это государство решило его наказать – теперь он ежегодно вынужден отстегивать приличную сумму на содержание и безбедную жизнь страховых компаний. Посмотрите, сколько их расплодилось и сколько на этом поприще пристроилось людей! А выполняют они свои обязанности, как свидетельствует практика и публикации в СМИ, не всегда безупречно. Здравый смысл подсказывает: автостраховка должна быть только на добровольных началах.

Мы не цивилизованная Европа, где обязательная автостраховка стала нормой поведения. Другие там менталитет, уровень и качество жизни. А нам не стоит выдумывать велосипед – ведь проблема решается просто. Произошло ДТП по вине конкретного водителя, он и должен возместить ущерб в полной мере. Нет денег – есть банковский кредит под залог имущества. Все справедливо, и не надо устраивать круговую поруку. Каждый должен нести свой крест.

Когда принимался закон об обязательном автостраховании, нас не спросили. И по доброй воле отменять его власти не станут (страховая мафия не позволит). А провести референдум нереально.

Но проблему решать нужно!

**Алесь ВЫНИСКИЙ.**
*г.Слуцк.*

РЭЗАНАНС

## Словы, якія прымушаюць задумацца…

Прывітанне, сябры!

Прачытаў на тым тыдні кнігу Вячаслава Адамчыка "Развітальная аповесць". У «Берлінскім дзённіку» ён цытуе Ваверанга – яго тры цікавыя і жорстка-праўдзівыя афарызмы.

1.Ні мудрасць, ні свабода не сумяшчаюцца са слабасцю.

2.Вайна – і тая прыносіць менш шкоды, чым рабства.

3.Рабства прыніжае чалавека да таго, што ён пачынае паважаць свае аковы.

Пагадзіцеся, вялікі сэнс закладзены ў гэтых разумных словах.

**А.Г.ГАЛАВАЧ.**
*г.Ліда.*

ЗАДУМАЕМСЯ…

## А яны ж былі беларусамі

Кожны раз, калі бываю на могілках, звяртаю ўвагу на пастаментных надпісы. Рэдка дзе прачытаеш прозвішча, імя і імя па бацьку таго, хто адышоў у іншы свет, на беларускай мове. Спрэс – на рускай.

Абсалютная ж большасць памерлых – беларусы. Дык чаму мы, жывыя, не захоўваем пра іх памяць як пра сыноў роднай зямлі?

**Марыля ВЯРБІЦКАЯ.**
*Гомель.*

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Почему я должна платить за газ втридорога?

Я, Жегулович Александра Викторовна, прошу вашей помощи.

Я родилась в 1932 году в д.Швакшты Мядельского района. Выросла и вместе с родителями работала в колхозе. Но после замужества переехала в Молодечно. Родители не меняли место жительства, там же, в деревне Швакшты, и похоронены. Их дом остался нам, сестрам.

Я каждый год с апреля по декабрь живу в родительском доме, на это время всегда прохожу регистрацию. Дом достался в наследство, а не куплен как дача. Каждый год мы оплачиваем налог на землю и строения. Так почему я, зарегистрированная в этом доме, должна платить за газ втридорога, вместо 10 рублей с меня требуют 30?

Знаю про закон, но это не дачный участок, а дом, который достался от родителей. У меня шесть лет стажа в колхозе, всего 40 лет трудового стажа, инвалид 2-й группы. Я считаю, что закон нужно доработать. Я не иностранка, дом не куплен как дача, почему я должна платить за газ в три раза больше?

**С уважением – Александра Викторовна ЖЕГУЛОВИЧ.**
*Мядельский район.*

САРАМ!

## Пры чым тут Янка?




Гэта ж трэба – туалетную паперу выпускаюць пад назвай "Янка"! Прыгожае беларускае імя апаскудзілі недалёкія галовы са шклоўскай фабрыкі "Спартак". Да чаго яны яшчэ дадумаюцца?

**Мікалай РЫБАКОЎ, жыхар пас.Копысь Аршанскага раёна.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Я супраць!

Старшыня Партыі БНФ Янукевіч неяк даў інтэрв'ю, у якім выступіў за ўзмацненне Узброеных сіл Беларусі, за правядзенне вайсковых парадаў. Ён мяне і другіх ветэранаў працы здзівіў. Я катэгарычна супраць такой пазіцыі, бо хопіць ужо пужаць адзін аднаго сваёй магутнасцю. Гонка ўзбраення давядзе да крытычнай рысы, калі "ружжо можа выстраліць" і ад нашага зямнога шара нічога не застанецца.

Я выступаю за поўнае раззбраенне ўсіх дзяржаў. Беларусь можа паказаць прыклад, стаць нейтральнай незалежнай парламенцкай дзяржавай. Сродкі, якія ідуць на ўзбраенне, неабходна направіць на паляпшэнне жыцця працоўных.

Спадар Янукевіч, я раней быў прыхільнікам Партыі БНФ, але ваша інтэрв'ю змяніла маё стаўленне да яе.

**Міхаіл РУСІНАЎ, жыхар г.Барысава.**

ПАЗІЦЫЯ

## Беларусі – дэкамунізацыю



У цэнтры маленькіх гарадкоў і пасёлкаў стаяць помнікі У.Леніну. Пафарбаваны яны звычайна ў алюмініевы альбо бронзавы колер з галавы да пят. На іх ужо мала хто звяртае ўвагу, толькі птушкі пасвістваюць зверху.

У адным пасёлку мясцовыя хлопцы павесілі на руку праваднару шыльдачку з надпісам: "Дарога на той свет". Так, дарога, якую абралі бальшавікі сто гадоў таму, аказалася згубнай для тысяч вялікай дзяржавы, як Савецкі Саюз.

Вось чаму, лічу, у Беларусі трэба праводзіць дэкамунізацыю: мяняць назвы вуліц, плошчаў, зносіць помнікі дыктатарам і іх паплечнікам. Без гэтага не будзе руху наперад.

**Аляксей БУЦЬКО, жыхар Гродна.**

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПОГЛЯД

## Пра чужую вайну і мужчынскі гераізм

Паважаная рэдакцыя!

Перш-наперш дзякую за выдатную газету! Чытаю з цікавасцю ўсё. У тым ліку артыкулы Алены Малочка. Таленавіта. Але з яе пазіцыяй пагаджаюся не заўсёды. Напрыклад, мяне непрыемна ўразіў яе тэмпераменты выпад супраць сканаўшага ад ран у ахопленым вайной украінскім Данбасе ўрача-брэстаўчаніна Алега Пакроўскага ў артыкуле "От мужского героизма просто знобит". Паехаў, падзарае аўтар, бо "на чужой (?!) войне зарабатывает больше". Але ж у прэсе не аднойчы сведкі сцвярджалі, што ў добраахвотнікаў было толькі тое, што маглі перадаць дабрачынныя суполкі, а не дзяржаўная зарплата!

"Чужая вайна"? Чаму "чужая"? Калі яе не спыніць своечасова і рашуча, яна, па меркаваннях спецыялістаў, даволі хутка магла дакаціцца і да суседзяў! У першую чаргу да Беларусі. І слава, і ўдзячнасць менавіта добраахвотнікам, якія, рызыкуючы ўласнымі жыццямі, здолелі даць такі рашучы адпор агрэсарам, што тыя зразумелі: лёгкай перамогі не будзе. Так што, атрымліваецца, брэстаўчанін стаў на абарону і сваіх дзетак, іх будучыні. Якіх, безумоўна, вельмі шкада. Але, будзем спадзявацца, знойдуцца добрыя людзі, якія іх падтрымаюць у жыцці.

І апошняе. На вайну добраахвотна выправіўся ўрач, а не салдат-наёмнік. Урач! Бо там, асабліва на перадавой, медыкаў катастрафічна не хапала, каб своечасова ратаваць параненых, у тым ліку і з ліку расійскіх агрэсараў. Так патрабуе ўрачэбная этыка. То якая ж "меркантыльнасць", калі ўсё наадварот! Такіх прыкладаў гісторыя засведчыла немала. Так што дзеці беларуса Алега Пакроўскага, падросшы, яшчэ будуць ганарыцца сваім бацькам, і грэх публічна настройваць чытачоў супраць яго.

**Эрнэст ЯЛУГІН, пісьменнік.**

SOS!

## Из-за них нет у нас жизни…

Уважаемая редакция!

Мы, жители деревни Бобровичи Ивацевичского района, оказались беззащитными перед теми, кому главное – порезвиться-повеселиться, а что своим поведением они отравляют жизнь другим – им наплевать. Откуда только не приезжают к нам на озеро такие нахалюги! Там, где раньше мы, местные, могли искупаться, отдохнуть, теперь не пройдешь из-за приезжих. Сплошные палатки, костры… От людей в нетрезвом состоянии чего только не услышишь! Приходилось даже вызывать милицию.

Вдоль берега – сплошные рыболовные снасти. Дети купаются и запутываются в леске.

За озером растет клюква. Для ее сбора надо плыть почти пять километров. Не поверите, но в прошлом году от нас, деревенских, потребовали плату за то, что проплываешь на лодке на противоположный берег озера, для того чтобы собрать ведерко клюквы. Неужели и в этом году на нас будут наживаться?

В нашей деревне осталось проживать каких-нибудь 30 человек. Казалось бы, на кого, как не на нас, местных, должна обращать внимание районная власть. Но… Не раз обращались в райисполком со своими проблемами – никто не прислушался. Может, прочитают это письмо и обратят внимание…

**Н.И.ШВАЙКО, И.Н.ЧИРКО, С.И.ПЕРЕХОДЬКО, Г.И.АЛЕКСЕЕВА, С.С.ДЫЧОК, жители д.Бобровичи Ивацевичского района.**

РЕЙТИНГ

# Самый богатый человек в мире




Основатель компании Amazon **Джефф Безос** признан самым богатым человеком в мире – он обошел в рейтинге миллиардеров Forbes основателя Microsoft **Билла Гейтса.**

Благодаря росту акций Amazon на 2,3% состояние Безоса увеличилось на 2 млрд долларов.

Таким образом, стоимость активов основателя Amazon превысила состояние Гейтса на 1,4 млрд долларов, свидетельствует онлайн-рейтинг Forbes, обновляющийся в режиме реального времени.

Последний раз Билл Гейтс терял лидерство в рейтинге год назад, тогда его на два дня обошел основатель торговой сети Zara **Амансио Ортега.**

Основатель Amazon стал седьмым человеком, возглавившим рейтинг миллиардеров Forbes с момента его появления в 1987 году.

Amazon – крупнейший в мире онлайн-ритейлер. Он работает в США, странах Европы, в Канаде, Китае, Индии, Мексике, Японии и в других странах.

КТО ЕСТЬ КТО

# Василий Небензя – постпред России при ООН



Родился он в 1962 году в Волгограде. В 1983 году окончил МГИМО и поступил на работу в МИД.

В.Небензя уже неоднократно работал в постпредстве при ООН. В частности, с 1996-го по 2000 год был старшим советником в постпредстве.

С 2006-го по 2012 год – заместитель постоянного представителя России при отделении ООН и других международных организаций в Женеве.

С 2012-го по 2013 год Небензя работал в МИД директором департамента по гуманитарному сотрудничеству и правам человека. В 2013 году получил должность заместителя министра иностранных дел.

ПОЗИЦИЯ

# США и Япония согласовали меры против Северной Кореи

Ввиду продолжающихся угроз со стороны северокорейского руководства президент США **Дональд Трамп** и премьер-министр Японии **Синдзо Абэ** уверены в необходимости новых штрафных мер в отношении КНДР. «Я полностью согласен с президентом Трампом в осознании того, что мы должны предпринять дальнейшие действия», – заявил Абэ в понедельник 31 августа после телефонного разговора с Трампом.

Власти КНДР 28 июля произвели запуск межконтинентальной баллистической ракеты. Испытания были проведены уже во второй раз за последний месяц. 4 июля Пхеньян заявил о запуске межконтинентальной ракеты, которая может долететь до территории США.

Пуском ракеты лично руководил глава страны Ким Чен Ын. Официальные северокорейские СМИ назвали испытания успешными, указав, что теперь республика способна «нанести ядерный удар по любой точке мира».

Резолюция ООН запрещает Северной Корее тесты баллистических ракет.

ИХ ОПЫТ

# Швейцария прощается с мирным атомом

*В ней постепенно будут закрыты все АЭС. Так решили на референдуме жители страны, которая сделала ставку на энергию ветра, воды и солнца.*



Чем заменить ядерную энергетику? Сегодня Швейцария производит треть своей электроэнергии с помощью АЭС, две трети – с помощью гидроэлектростанций, и всего лишь 4 процента – из энергии солнца и ветра. Закон предлагает не одно, а несколько решений.

Швейцария должна снизить общее потребление электричества на 16 процентов до 2020 года и на целых 43 процента – до 2035 года. Это коснется и домашних хозяйств: закон предполагает, что каждый житель страны сумеет через 20 лет потреблять на 13 процентов меньше электроэнергии, чем сегодня.

Закон описывает и способ, как этого добиться: улучшить теплоизоляцию домов, на что из казны будут выделены дополнительные средства. Помимо экономии, закон задает ориентиры, насколько должна увеличиться выработка электричества из энергии солнца, биомассы, геотермических источников и ветра.

Швейцарцы с отказом от ядерной энергетики не стали спешить. Точной даты завершения работы пяти швейцарских атомных энергоблоков власти не определяют. Закон, который вступит в силу только в 2018 году, позволяет им работать столько, сколько они смогут соответствовать стандартам безопасности. Просто строить новые реакторы в Швейцарии больше не будут.

Швейцария, как заметил еженедельник Der Spiegel, последует за Италией, которая отказалась от ядерной энергетики еще в конце XX века, Германией и Бельгией, которая планирует завершить работу последних АЭС к 2025 году. Даже французы, которые до сих пор державшись за свою атомную энергетику, приняли решение сократить ее долю в энергогенерации на четверть.

Планы изменения производства и потребления электроэнергии в Швейцарии хороши, но есть несколько проблем. Одна из них – швейцарцы очень медленно осваивают технологию ветроэнергетики. В альпийской стране, по данным Reuters, работают всего 64 ветряка! В Германии их больше 26 тысяч, они ежегодно «накручивают» 16 процентов электроэнергии страны.

Проблема не в самой технологии, разумеется, а в отношении к ней жителей страны: в принципе, швейцарцы высказываются за развитие ветропарков, но, как только дело доходит до появления ветряков рядом с их домами, поддержка резко снижается.

Чтобы преодолеть сопротивление местных общин, в законе развитие энергетики из возобновляемых источников называется национальным интересом, а значит, не должно автоматически подчиняться интересам защиты природы или исходного облика того или иного региона. Государство будет поддерживать производителей электроэнергии из возобновляемых источников, но не позднее 2030 года субсидии прекратятся.

### Что говорят сторонники и противники

Сторонники нового закона ожидают притока инвестиций в страну, ослабления зависимости от нефти и газа, инноваций благодаря энергосберегающим технологиям и появлению новых рабочих мест. Сторонники закона подсчитали, что общие расходы на переход от атомной энергетики к использованию возобновляемых источников обойдутся семье из 4 человек в 40 франков в год.

Противники, потерпевшие поражение на референдуме, считают, что закон «дирижистский», а цели и ориентиры выбраны «произвольно». Их основные аргументы таковы: расходы на переход к возобновляемым источникам будут намного выше и составят не 40, а все 3200 франков на семью ежегодно (примерно 2900 евро).

По их словам, в законе много красивых слов, но нет ответов на конкретные вопросы: как покрыть дефицит электроэнергии уже в ближайшем будущем? Вместо большей независимости от зарубежных нефти и газа Швейцария станет более зависимой от соседей, у которых придется покупать электричество, особенно зимой, когда от солнечных батарей толку мало, указывают критики.

Ну и ландшафт пострадает, уверен один из лидеров национал-консервативной Швейцарской народной партии Курт Цоллингер: «Неужели нам надо повторять за немцами всякую глупость?» Свыше 58 процентов швейцарцев, пришедших на референдум, проголосовали за принятие закона.

ПОСТАЦЬ

## Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік

# Маё сяброўства з Янкам Брылём

*(Да стагоддзя з дня нараджэння народнага пісьменніка)*




1968 год быў асаблівы для сям'і Гарэцкіх: імя і спадчына Максіма Гарэцкага пачалі вяртацца народу. Гаўрылу Гарэцкаму нарэшце ўдалося назаўсёды пераехаць у Мінск. 28 лістапада 1968 года ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вялікі юбілей Максіма Гарэцкага – 75-годдзе з дня нараджэння. Адкрыў і вёў вечарыну **Янка Брыль.**

Я тады ўпершыню пазнаёміўся са знакамітым пісьменнікам, які ўразіў мяне не толькі цудоўным, вельмі выразным уступным словам і выдатным правядзеннем вечарыны, але і сваім абліччам: высокі, магутнай постаці, статны, прыгожы, з багатай хвалістай шатэнавай чупрынай над вялікім ілбом, уважлівым ласкавым поглядам шэра-блакітных вачэй, вузкімі вуснамі з прыемнай добразычлівай усмешкай і выступаючым наперад валявым падбародкам. Ён моцна паціснуў мне руку, пагледзеў на мяне з шчырай прыхільнасцю – я думаю, што ўбачыў і адчуў маё захапленне ад яго, і таму мы развіталіся са значнай сімпатыяй адзін да аднаго.

Пазней я ўсё часцей і часцей сустракаўся з Янкам Брылём на розных літаратурных вечарах, прэзентацыях. Мне вельмі прыемна была яго ўвага, і мяне цягнула да яго, бо нашы кароткія размовы былі заўсёды цікавыя. У снежні 1978 года я атрымаў ад Янкі Брыля цудоўны падарунак да майго 50-годдзя – яго кнігу "Птушкі і гнёзды. Кніга адной маладосці" з такім аўтографам: *"Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – з удзячнасцю за памяць і падарунак, а таксама з найлепшымі пажаданнямі з выпадку першага кругляка дня нараджэння. Янка Брыль 4–7.XII.78".* Перад гэтым я паслаў Івану Антонавічу манаграфію "Тэктоніка Беларусі" з тэктанічнай картай Беларусі, за якую я разам з калектывам атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. У канцы года прыемна было атрымаць карталішку з віншаваннем з Новым годам, прэміяй і ганаровым званнем "Заслужаны дзеяч навукі БССР".

У 1981 годзе – цудоўная навіна: Янку Брылю прысвоена званне "Народны пісьменнік БССР".

Яшчэ ў канцы 1970-х – на самым пачатку 1980-х гадоў Янка Брыль і Алесь Адамовіч з жонкамі Нінай Міхайлаўнай і Верай Сямёнаўнай прыходзілі на кватэру да маіх бацькоў, каб пагаманіць наконт жыцця, творчасці і спадчыны Максіма Гарэцкага. Я часта прысутнічаў там.

18 лютага 1983 годзе ў Доме літаратара прайшоў урачысты вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Зала была цалкам запоўнена. Вечар адкрыў і вёў Максім Танк, у прэзідыуме былі Алесь Адамовіч (ён зрабіў даклад пра жыццё і творчы шлях пісьменніка), Гаўрыла Гарэцкі, Янка Брыль, Ніл Гілевіч і іншыя, якія выступілі з успамінамі і роздумамі. Прысутнічала дачка Максіма Іванавіча Галіна Максімаўна – Ул.Крук зрабіў цудоўны фотадымак з ёй і нашымі выдатнейшымі пісьменнікамі, у ліку якіх быў і Янка Брыль.

Трохі раней, у снежні, я ад Янкі Брыля атрымаў выдатны падарунак – Збор твораў у пяці тамах. У тым жа годзе рад быў павіншаваць Янку Брыля з Дзяржаўнай прэміяй БССР за аповесць "Золак, убачаны здалёк".

20 лістапада 1988 года памёр мой тата Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі. Упершыню развітанне зрабілі ў вялікай зале АН БССР, якая была запоўнена, прычым не толькі навукоўцамі. Прыйшлі многія пісьменнікі, сярод якіх быў і Янка Брыль. Я вельмі быў удзячны за яго шчырыя, сардэчныя развітальныя словы, якія выклікалі ў мяне слёзы, але і пачуццё нейкага супакаення.

### Ганаровы акадэмік

Калі на пачатку 1990-х гадоў мінулага стагоддзя мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць нашу акадэмію больш нацыянальнай і таму прапанаваў нашаму Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраюцца грамадзяне Беларусі, якія зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі. У 1994 годзе ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка – найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць.

На жаль, пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў прэзідэнта дзяржавы беларуская мова, пытанні беларускай літаратуры і культуры паступова пачалі пакідаць акадэмію, а нашых ганаровых акадэмікаў нярэдка проста забываліся запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на агульныя сходы АН Беларусі.

### З класікам – на ты

У 1980–1990-я гады Янка Брыль на ўсё лета пераязджаў у Крынічнае, што на Нёмане, дзе ў яго доме была невялічкая мансарда – тут ён напісаў многія свае творы. У шырока адчыненае акно ён бачыў цудоўны краявід – сіняе неба і мудрагелістыя аблокі, чуў шчэбет рознагалосых птушак. Лёгка дыхалася свежым смачным паветрам. Пісьменнік адчуваў сябе часцінкай прыроды, зліваўся з ёй, ад яе піў сокі жыцця. І прыходзіла натхненне...

### З песняй па жыцці

У нашым аўто ўсю дарогу гучалі песні, галоўным салістам быў Янка Брыль, які меў прыгожы голас. Аматарскі хор складалі Тэрэза Голуб, Таццяна Дасаева, Міхась Мушынскі і я. Пазней Янка Брыль паведаў, як ён разам з Нілам Гілевічам, плывучы на параходзе па Амуры, спявалі розныя песні славянскіх народаў, і іх прынялі за "приезжих артистов". Аднойчы ў Канадзе ён быў на сустрэчы з канадскімі ўкраінцамі і выступіў на ўкраінскай мове. Украінцы папрасілі яго паспяваць – прыйшлося выканаць песню (праўда, у галаву прыйшла беларуская), але поспех быў надзвычайны, што адзначылі нават многія газеты. У апошні год жыцця Янка неяк мне прызнаўся, што ён цяпер, калі нават адзін, пацiху спявае. У сэрцы Янкі Брыля заўсёды была песня...

Паколькі сустракаліся і спявалі мы з Брылём даволі часта, аднойчы я запісаў на маленькі магнітафон гэтыя спевы. Цяпер, калі прайшло ўжо амаль 20 гадоў і няма на свеце тых галоўных салістаў і некаторых слухачоў, успаміны пра дарагіх сяброў не даюць мне спакою: я ўключаю магнітафон і слухаю са слязьмі на вачах цудоўны хор...



80-годдзе Янкі Брыля. Злева направа: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Ніна Гілевіч. Крынічнае, 4 жніўня 1997 года.

Успамінаю, як на маіх "Жыгулях" з Нілам і Нінай Гілевічамі і маёй жонкай Галяй паехалі ў Крынічнае, каб павіншаваць Янку Брыля з 80-годдзем (4 жніўня 1997 г.). Ужо нядлёка ад яго сядзібы трапілі ў лес, здалёку ўбачылі жанчыну, якая збірала грыбы, вырашылі спытаць дарогу. Калі падышлі, аказалася, што гэта Ніна Міхайлаўна – жонка Івана Антонавіча. Сваёй гасціннасцю, добразычлівасцю, розумам, гумарам абедзве Ніны былі падобныя. Колькі тады было радасці, смеху, добрых слоў, цікавых успамінаў!

Іван Антонавіч хваляваўся, бо хацеў, каб улады Беларусі не ўзнагароджвалі яго – не ведаў, як рэагаваць. Быў вельмі рад, што ад іх не прыйшло нават віншавання, а было толькі ад кіраўнікоў мясцовага раёна. Мы, як і большасць інтэлігенцыі і жыхароў Беларусі, былі абураны такой знявагай да аднаго з самых выдатных дзеячаў краіны.

Янка Брыль меў вялікую колькасць сяброў. **Іван Мележ** неяк сказаў, што зайздросціць яму: "У цябе столькі сяброў!" Брыль адказаў, што сапраўды лічыць сябе шчаслівым чалавекам з гэтай прычыны. У людзях галоўнай станоўчай якасцю лічыў чалавечнасць, не цярпеў двурушнасці, а сяброўства любіў "на роўных". Таму значна маладзейшым – спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне – прапанаваў перайсці на "ты". Гэта было для нас няпроста, але вельмі прыемна і пачэсна. Пазней і мы з Нілам перайшлі на "ты".

У 1996 годзе паслалі ліст, у якім павіншавалі Ніну Міхайлаўну і Івана Антонавіча з днём нараджэння. Хутка з Крынічнага атрымалі адказ: *"Дзякуем шчыра за віншаванне і добрыя пажаданні! [...] А прыемна вельмі, што гэтыя добрыя людзі, якіх паважаеш і любіш, памятаюць цябе, дораць табе сваю сяброўскую шчырасць. А ты, Радзім, яшчэ і парадаваў мяне добрым словам пра "палымянскую" публікацыю, за што яшчэ адзін дзякуй. [...] Пра нашага слаўнага Гаўрылу Іванавіча, для кнігі пра яго, я пастараюся нешта напісаць, дзякую за гэтую пачэсную прапанову. [...] Усяго Вам добрага! І яшчэ раз дзякуем за пісьмо. Я.Брыль".*

Па запрашэнні Ніны Міхайлаўны і Івана Антонавіча мы з Галяй з вялікай прыемнасцю пачалі прыязджаць у Крынічнае, каб трапіць на іх амаль адзін дзень нараджэння (яна нарадзілася 22 ліпеня па новым стылі, а ён – таксама 22-га, але па старым), прычым іншы раз гасцявалі па некалькі дзён, а начавалі па-геалагічнаму – у палатцы ва двары дома. Вельмі добра сустрэліся з цудоўнай сям'ёй Брылёў і некаторымі гасцямі ў 1998 годзе.

У Крынічным я вельмі любіў прагулкі з Іванам Антонавічам, які меў такое моцнае замілаванне да дзівосных краявідаў Прынёмання, што мог гадзінамі хадзіць у лес, усцяж ракі. Ён з захапленнем паказваў магутныя дубы, якія мы не маглі ахапіць разам; кожны раз дзівіліся з ссечанага асілка – дуба, які не губляў жыццёвай моцы, і таму з яго пня расла белая прыгажуня бярозка. Тут у яго думках нараджаліся мініяцюры, прысвечаныя прыродзе і настолькі прасякнутыя лірызмам, што былі сапраўднымі вершамі ў прозе.

Ён мне казаў, што не разумее тых, хто кажа "ні дня без радка", для яго галоўнае – настрой, натхненне і толькі праўда жыцця. Ён уважліва наглядаў жыццё, збіраў рэальныя падзеі, тыпы і характары людзей (будучыя прататыпы твораў) і для гэтага пастаянна вёў запісы.

У апошнія гады Янку Брыля больш цягнула да апавяданняў, эсэ і асабліва да мініяцюр, якія, дзякуючы яму, зрабіліся такім папулярным жанрам у беларускай літаратуры. Ён поўнасцю быў аддадзены роднай мове, сваіму народу, Бацькаўшчыне. Усё жыццё любіў кнігу, прычым чытаў не толькі ўважліва, але вельмі хутка. Праз кнігу стаў сапраўдным энцыклапедыстам. Добра ведаў мастацкую літаратуру, і пры размовах часта цытаваў сваіх любімых пісьменнікаў – Льва Талстога, Чэхава, Адама Міцкевіча, Шаўчэнку, Багдановіча і іншых.

### «А тлуму мне не трэба...»

Былі ў нас і сумныя моманты. Адзін з іх Іван Антонавіч успамінаў так: *"Апоўдні мне як усё роўна хто падказаў пайсці на пошту, не адкладаючы на дзень ад'езду ў вёску. Пісьмы, між іншымі і ад Гарэцкіх. Галі, падумалася, напішу, а Радзіму, які кранаў віншаваннем Ніне і мне, пачаў званіць на работу. [...] ... толькі на трэцім званку сакратарка сказала, што ён дома, што праз паўтары гадзіны... пахаванне яго маці. Пазваніў яму дахаты і сказаў, што еду. Каля труны мы, нічога не кажучы, абняліся..."* Янка сказаў вельмі шчырыя добрыя словы, так ласкава падтрымаў мяне ў такі жудасны момант майго жыцця, а потым застаўся на памінкі. Гэта было 3 жніўня 1994 года, а на наступны дзень у яго быў дзень нараджэння – 77-годдзе.

(Заканчэнне на 6-й стар.)

ВІНШУЕМ!

# Рэванш Віталя Гуркова

*11-разовы чэмпіён свету па муай-тай з Беларусі стаў пераможцам Сусветных спартыўных гульняў у Вроцлаве.*



У фінале Віталь Гуркоў аказаўся мацнейшым за ўкраінца Васіля Сарокіна. Дарэчы, на шляху да фіналу беларус перамог таго самага партугальца, які выбіў яго з барацьбы на чэмпіянаце свету ў Мінску.

**Віктар ШПАК.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Студэнты патрабуюць зніжку!

*Моладзь Партыі БНФ распачала кампанію ў падтрымку законапраекта, які дае права студэнтам ВНУ і каледжаў на льготны праезд у грамадскім транспарце і цягніках унутры краіны.*

Новая ініцыятыва моладзі Партыі БНФ “Goodbye, tickets!” накіравана на распрацоўку законапраекта, які прадугледжвае 50-працэнтную зніжку студэнтам ВНУ і каледжаў на аплату праезду ў грамадскім транспарце, а таксама ў цягніках унутры Беларусі.

Кампанія стартавала на пачатку ліпеня. Першы яе этап – гэта збор подпісаў пад петыцыяй за прыняцце адпаведнага законапраекта. На працягу апошняга месяца валанцёры сабралі па Беларусі больш за тысячу подпісаў у падтрымку кампаніі.

*“Людзі вельмі пазітыўна рэагуюць на ініцыятыву і актыўна падпісваюцца. Прычым гэта тычыцца не толькі непасрэдна саміх студэнтаў, але і дарослых людзей, дзеці якіх зараз вучацца, а таксама старэйшых школьнікаў, якія толькі збіраюцца паступаць”*, – сцвярджае адказны за кампанію, сябра Моладзі БНФ **Дзяніс Мандзік.**

*“Мы ўпэўнены, што, улічваючы эканамічную сітуацыю, якая склалася ў краіне на дадзены момант, такі законапраект з’яўляецца неабходнасцю для Беларусі. Тым больш такая практыка паспяхова выкарыстоўваецца ў некаторых суседніх краінах. На сённяшні дзень студэнты з’яўляюцца адным з самых малазабяспечаных слаёў насельніцтва. Большасць з іх не маюць магчымасці зарабляць грошы самастойна, а праязны сёння каштуе амаль палову стыпендыі, таму яны з’яўляюцца вялікай фінансавай нагрузкай для сваіх бацькоў”*, – сказала “Народнай Волі” актывістка мінскай гарадской арганізацыі **Ганна Смілевіч.**

*“Калі дэпутаты праігнаруюць голас тысяч людзей, то мы самі з дапамогай экспертаў распрацуем такі законапраект і будзем рознымі шляхамі дамагацца яго прыняцця”*, – гавораць арганізатары кампаніі.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

З НАГОДЫ

# Фрагментарная памяць

Памяць сённяшніх беларускіх улад можна смела назваць фрагментарнай. Здаецца, нядаўна кіраўнік дзяржавы ў публічнай прамове згадаў, што вытокі беларускай дзяржаўнасці бяруць свой пачатак яшчэ ў Полацкім княстве (зрэшты, пра гэта даўно напісана і ў школьных падручніках). Але чамусьці сяму-таму па-ранейшаму не хочацца ўспамінаць тыя гістарычныя даты, калі абвяшчалася дзяржава менавіта з назвай “Беларуская”. Калі адносна дат прыняцця трох Устаўных грамат Беларускай Народнай Рэспублікі паводзіны такіх людзей яшчэ неяк можна растлумачыць (на іх афіцыйнае святкаванне не атрыманы “высочайший” дазвол з Масквы?), то ў дачыненні да дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце – 27 ліпеня 1990 года – і такое тлумачэнне не падыходзіць: маскоўскія ўлады ў 1990 годзе далі згоду на прыняцце дэкларацыі з такой назвай.

Нехта можа сказаць, што я перабольшваю. Тады, даражэнькія, як можна растлумачыць той факт, што 27 ліпеня кожнага года мы не бачым святочных расцяжак на вуліцах беларускіх гарадоў, а дзяржаўныя СМІ ў гэтыя дні быццам набіраюць вады ў рот? Пры тым што аўтар гэтых радкоў у 1990 годзе галасаваў толькі за першыя 10 пунктаў названай Дэкларацыі, а дэпутат Аляксандр Лукашэнка, калі не памыляюся, падтрымаў яе цалкам…

Што ж, чаго не робіць дзяржава, тое мусіць рабіць грамадскасць. У апошнія гады пачала складвацца традыцыя ў дзень 27 ліпеня ўскладаць кветкі на магілы тых людзей, якія спрычыніліся да аднаўлення беларускай незалежнасці ў 1990–1991 гадах як палітыкі, грамадскія дзеячы або праз свой творчы даробак.

Сёлета такое мерапрыемства традыцыйна пачалося на Усходніх могілках беларускай сталіцы каля магілы Васіля Быкава. Яго блізкі сябар і калега, вядомы паэт Сяргей Законнікаў у сваім кароткім слове адзначыў, што Быкаў усё сваё жыццё змагаўся за свабоду думкі, і гэтае яго змаганне натуральным чынам дапоўнілася адстойваннем права беларусаў на сваю паўнавартасную дзяржаўнасць. Каля магілы Уладзіміра Караткевіча прамаўляў таксама літаратар Славамір Адамовіч, які падзяліўся сваімі дзіцячымі ўражаннямі наконт таго, як творчасць вялікага аршанца дапамагла яму асабіста стаць прыхільнікам Беларушчыны.

Каля магілы выдатнага гісторыка, аднаго з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту прафесара Міхася Ткачова слова ўзяў актывіст беларускай сацыял-дэмакратыі Алесь Станкевіч, які падкрэсліў пераемнасць беларускай сацыял-дэмакратычнай думкі ад БНР да незалежнай Рэспублікі Беларусь, што асабліва яскрава выявілася ў навуковых працах і грамадска-палітычнай дзейнасці Ткачова.

Удзельнікі мерапрыемства не абышлі сваёй увагай і апошняе прыстанішча першага генеральнага пракурора незалежнай Беларусі Мікалая Ігнатовіча. Прамоўцы выказвалі шкадаванне па заўчаснай смерці гэтай неардынарнай асобы, пры якой, як адзначалася, наўрад ці “стала б магчымым пазнейшае беззаконне, што прыйшло ў краіну пасля змены палітычнай улады”.

На Усходніх могілках была таксама ўшанавана памяць дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання, выдатнага журналіста і публіцыста Ігара Герменчука, класіка сучаснай беларускай паэзіі, выдатнага дзяржаўнага дзеяча і дыпламата Генадзя Бураўкіна, а таксама дзеячаў, якія ўжо ў сталым узросце свядома далучыліся да справы беларускай Незалежнасці, членаў прэзідыумаў Вярхоўных Саветаў СССР і БССР Георгія Таразевіча і Генадзя Карпенкі.

На мінскіх Кальварыйскіх могілках былі ўзгаданы імёны народнага паэта Беларусі, члена прэзідыума таго самага Вярхоўнага Савета 12-га склікання Ніла Гілевіча, аднаго з аўтараў эталонаў нацыянальна-дзяржаўнай сімволікі, мастака і грамадскага дзеяча Яўгена Куліка, беларускамоўнага святара айца Яна Матусевіча, актывіста незалежнага прадпрымальніцкага руху Арнольда Пячэрскага. Паэт і бард Зміцер Захарэвіч нагадаў пра асобу аднаго з пачынальнікаў беларускага руху на самым пачатку XX стагоддзя, пазней міністра ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі прафесара Вацлава Іваноўскага…

Як сказаў у размове з аўтарам гэтых радкоў (які таксама браў слова падчас мерапрыемства) каардынатар акцыі памяці палітык Вячаслаў Сіўчык, перад гэтым актывісты наведалі і Паўночныя могілкі, на якіх спачывае прах вядомых палітыкаў і творцаў – Віктара Івашкевіча, Галіны Сямдзянавай, ветэранаў Другой сусветнай вайны Артура Вольскага, Валянціна Тараса…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання.**

ПОСТАЦЬ

## Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік

# Маё сяброўства з Янкам Брылём

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)**

Калі 5 верасня 2003 года памерла Ніна Міхайлаўна, Янку Брылю не дазволілі пахаваць жонку на блізкіх да горада могілках, а ён вельмі прасіў, каб былі Кальварыйскія. На яе пахаванні на могілках “Калодзішчы”, калі я стаяў побач з Янкам на ўзгорку з прыгожым краявідам, ён сказаў: *“А ведаеш, нават добра, што так атрымалася, – мне падабаецца тут. Глядзі, які тут добры сасновы бор, мяккі сыпучы пясочак, чыстае паветра, цішыня. Вось і я лягу побач, а тлуму мне не трэба”.*

Ён быў мудры, сціплы чалавек. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. Ніл Гілевіч і я шчыра спачувалі свайму старэйшаму сябру, выказалі наш сардэчны сум і боль у сваіх развітальных словах. На памінках у кватэры на вул.Дразды я сядзеў побач з ім на канапе, прытуліўшыся да яго, магутнага, але такога аслабелага ад згубы, стараўся перадаць яму хоць нейкую частку сваёй сілы, гаманіў-гаманіў паціху з ім, каб ён адчуў маё шчырае спачуванне і каб троху адхіліць змрочныя думкі, якія, я бачыў, увесь час надыходзілі на яго.



**85-годдзе Янкі Брыля. У цэнтры – Янка Брыль з Нінай Міхайлаўнай, дочкі Галя і Наташа, унучка Дана з мужам; справа – Вольга Іпатава з мужам Ягорам Федзюшыным, Эрнест Ялугін, Аляксей Рыбак; злева – Галіна і Радзім Гарэцкія. Крынічнае, 4 жніўня 2002 года.**

Іван Антонавіч быў вельмі шчаслівы сваёй сям’ёй: верная спадарожніца жыцця Ніна Міхайлаўна, выдатныя дзеці – Галя, Наташа, Андрэй – і, безумоўна, унукі, якіх ён вельмі любіў і ганарыўся імі – яны адрозніваліся ад многіх чалавечнасцю і таленавітасцю. Калі Янка ў сваёй кватэры жыў ужо адзін і з кійком хадзіў па хаце, я часта наведваў яго, асабліва пасля таго, як рэдакцыя часопіса “Роднае слова” (галоўны рэдактар Міхась Шавыркін), у якім я ў той час рэгулярна друкаваў свае артыкулы заказала Івану Антонавічу нарыс пра яго радавод. Не паспеў я аднойчы пераступіць парог, як ён з радасцю паведаміў: *“А ведаеш, дарагі мой, павіншуй мяне – я стаў прадзедам!”* Ведаючы пра радавод, які мне паказалі ў рэдакцыі, я адразу спытаў: *“А ў радавод паспеў уключыць новага чалавека брылёўскай крыві?”* Ён пазней у часопіс з радаводам пра праўнучку дапісаў пастскрыптум.

Пазней у апошняй яго кнізе “Парастак” я з прыемнасцю пра той момант прачытаў: *“Вясёлы пастскрыптум. 10 красавіка, калі ўжо гэты нарыс быў здадзены ў рэдакцыю “Роднага слова” і прыняты да выхаду ў чэрвені, я на шэрай гадзіне, не ўключаючы святла, у адзіноце спяваў сам сабе, у нейкія моманты нават у слёзнай асалодзе ад музыкі і слоў – родных, рускіх, украінскіх, польскіх. І тут нечаканы і доўгачаканы званок ад Галі, што вось і яна ўжо бабуля, а я – такім чынам, прадзед!.. У Мішы з Машай – дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя – Даша, Дар’я, а ў нас па-загорску – Адарка, Адара. Зноў жа высокае хваляванне, святочная навіна, пра якую мне захацелася дапісаць, бо яна ж і да месца ў размове пра мой, пра наш радавод”.*

### Урокі чытання

Я заўсёды здзіўляўся, як Янка Брыль вельмі многа і хутка чытаў, нягледзячы на тое, што адным вокам ён не бачыў (пашкодзіў трэскай, калі калоў дровы на лецішчы ў Крынічным). Я жаліўся на сваё маруднае чытанне – ён выступаў за мяне па-адвакацку і тактоўна супакойваў, што ў мяне шмат розных іншых спраў і адхіленняў, а ў яго галоўная праца і асалода – чытанне. Ён быў рад, калі я наведваў яго, і мы даволі доўга размаўлялі пра новыя творы, у прыватнасці надрукаваныя ў “Дзеяслове”, які ён звычайна штудзіраваў раней за мяне і раіў, на што звярнуць увагу.

Ён дзяліўся сваімі літаратурнымі прыхільнасцямі, пра мінулае жыццё і творчасць, падкрэсліваў, што галоўная яго крыніца – родная мова, самаадукацыя праз кнігу, дыханне праўдай і шчырасцю. Некалькі разоў мы звярталіся да пытання, ці могуць быць літаратурныя творы калектыўнымі, асабліва ў сувязі з непрыемнай спрэчкай



**Я. Брыль, Н. Брыль, У. Калеснік.**

нашых сяброў Ніла Гілевіча і Міколы Аўрамчыка наконт “Лысай Гары”. Янка прынцыпова лічыў, што літаратура – індывідуальная творчасць, хаця могуць быць даволі рэдкія выпадкі калектыўных твораў. Пра тую спрэчку ён казаў, што гэта справа іх асабістая, няхай самі і разбіраюцца. І Ніл, і Мікола – абодва мае сябры і сварыцца з кім-небудзь з іх з-за такога разбору ён не збіраецца. Ён прыводзіў свой прыклад з кнігай “Я з вогненнай вёскі”. Калі аж тры аўтары надрукавалі яе, дык вырашылі ўсе рукапісы спаліць, каб пазней ні паміж імі, ні сярод літаратуразнаўцаў не было разборак, хто больш, хто лепш напісаў, хаця яны адзін аднаму і давяралі поўнасцю і не мелі ніякага сумнення ў інтэлігентнасці і сумленнасці кожнага.

### Раптоўная смерць…

16 траўня 2006 года мне пазваніў Іван Антонавіч і паведаміў, што ляжыць у бальніцы ў Бараўлянах, куды яго паклалі, каб выразаць пухліну на кішцы. Я вельмі ўсхваляваўся: чаму Бараўляны? Супакоіў: звычайная адэнома. Спачатку паклалі яго ў агульную палату, у якой адзін трактарыст так брыдкасловіў і крычаў, што было вельмі няўтульна. Добра, што адна дактарыца, якая ведала, хто такі Янка Брыль, узняла шум і яго, як удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, перавялі ў палату з надпісам на дзвярах “Палата ВОВ”.

Мы з жонкай Галяй заехалі наведаць, я пажартаваў: “Як тут адчувае наш дарагі таварыш ВОВ?” Пасмяяліся. Ён быў спакойны, дабразычлівы. Хаця яго кожны дзень наведвалі родныя, асабліва клапатлівыя дочкі – Наташа і Галя, ён быў рад паслухаць ад нас розныя навіны.

Цяжкую аперацыю перанёс мужна, але тры дні адыходзіў ад наркозу: спаў і трызніў. Але настрой быў аптымістычны, бадзёры. Падарыў нам нядаўна надрукаваную ў серыі “Беларуская проза XX стагоддзя” кнігу “Птушкі і гнёзды. Выбранае”. Калі мы прыехалі, ён ляжаў з кропельніцай, таму падпісваць было нязручна, – смяяўся, што ніколі не рабіў надпіс такімі каракулямі: “Радзіму і Галі – з “незабыўнага”. 15.VI.06. Я.Брыль”.

Яго адправілі ў Аксакаўшчыну на рэабілітацыю. 7 ліпеня зноў радасць – пазваніў Янка і вясёлым бадзёрым голасам паведаміў, што ўжо ў хаце, дзе так прыемна пасля 2,5 месяца адсутнасці ды яшчэ ў бальніцах. Збіраецца ў Крынічнае.

Перад ад’ездам ён разаслаў сваю новую кніжку “Парастак” амаль па 60 адрасах. Мы таксама атрымалі: *“Дарагім Радзіму і Галі з сяброўскай прыхільнасцю. 8.VII.06. Я.Брыль”*. Я адразу пазваніў, але пра ўражанне не мог сказаць, бо Іван Антонавіч ужо з’ехаў у Крынічнае. Вырашылі, што абавязкова прыедзем да яго ў дзень нараджэння – 4 жніўня 2006 года, калі споўніцца 89 гадоў.

“Парастак”. Якая цудоўная сімвалічная назва! Гэта – зварот класіка беларускай літаратуры да сваіх вучняў, чытачоў, прыхільнікаў, асабліва да больш маладых парасткаў, якіх у Янкі Брыля за яго доўгае складанае сумленнае жыццё вырасла вялікае мноства. Ён і мастаку падказаў, як зрабіць такую выразную вокладку. У кніжцы аўтар, вялікі майстар прозы і асабліва мініяцюр, зноў шырока і шчодра расчыніў браму сваіх багатых скарбаў. Тут можна пачуць бязмерную любоў да беларускай прыроды, да Нёманшчыны; мудрыя філасофскія разважанні пра жыццё, пра Бацькаўшчыну, пра ўвесь свет; пра стан мовы беларускай; выказванні пра мінулае і будучае краіны, пра сяброў, пісьменнікаў і мастакоў, пра прыгажосць жыцця, якое, на жаль, часта парушаюць сатанінскія з’явы: сапраўды народныя думкі ад Народнага пісьменніка Беларусі, які не можа абысціся без народных прыказак; шчырыя споведзі пра сябе і свой радавод і г.д. Усё напісана прыгажэйшай адпрацаванай да дробязяў брылёўскай мовай. Каб усё дайшло да глыбіні розуму і сэрца, трэба кніжку чытаць і перачытваць вельмі ўважліва.

І раптам 25 ліпеня 2006 года – неспадзяваны страшэнны ўдар: Янка Брыль памёр у лечкамісіі а 12-й гадзіне, калі паставілі кропельніцу, якую ён так не хацеў прымаць, бо перад тым на працягу многіх дзён хваробы ўсе вены на руках былі паколаты. Памёр раптоўна, бо за 1,5 гадзіны да таго Наталлі Іванаўне сказалі, што *“состояние удовлетворительное”*. Хаджу сам не свой. У галаве: “Іван Антонавіч! Янка! Як жа так? Чаму так? Як будзем без цябе?” Сэрца плюхае зачаста, і адчуваецца, што яно ёсць, таму што нешта паколвае. Беларусь і ўвесь свет асірацелі: пайшоў ад нас Вялікі пісьменнік, Вялікі грамадзянін.

На другі дзень у кватэру Брыля прывезлі труну. Пачалі прыходзіць развітацца блізкія, сябры, знаёмыя. Прыйшлі і мы. На вуліцы сустракае Данута. Кватэра адчынена. Наташа, Галя, родныя, Марыя Захарэвіч, Валянціна Коўтун, Анатоль Сідарэвіч маўчаць ці шэптам размаўляюць... Іван Антонавіч, прыгожы, спакойны, трошку схуднелы, выглядае – як быццам спіць. Ён заўсёды быў вельмі фотагенічны. Шматлікія яго здымкі такія выразныя, на якіх бачны самыя разнастайныя пачуцці: радасць і прыемная ўсмешка, роздум і задумлівасць, дабрыня і прыязнасць... Пазваніў сын, Андрэй Іванавіч, які працуе зараз у Японіі, што ўжо ў Маскве і хутка дабярэцца да Мінска.

На наступны дзень а 14-й гадзіне пахаванне. Людзі ішлі адзін за адным з кветкамі – сумная вестка разляцелася па Беларусі. Сабралася чалавек пад 400–500. Знаёмыя і незнаёмыя твары. Бачу палітычных дзеячаў: С.Шушкевіча з Ірынай, А.Мілінкевіча, А.Лябедзьку, С.Калякіна, Ю.Хадыку, А.Дабравольскага, П.Краўчанку, многіх пісьменнікаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і іншых. Вынеслі труну, і над ёй і натоўпам узняліся магутныя светлыя, але з чорнымі стужкамі бел-чырвона-белыя сцягі. Ад афіцыйных структур няма прадстаўнікоў – не тое што ад Адміністрацыі прэзідэнта, ці Савета міністраў, ці Нацыянальнага сходу РБ, а нават ад Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі, Нацыянальнай акадэміі навук (праўда, ёсць сціплы вянок ад Прэзідыума, а ён жа – ганаровы акадэмік!). Не відаць і прадстаўнікоў чыргінцоўскага пісьменніцкага саюза. Як тады, калі пры пахаванні Васіля Быкава бел-чырвона-белы сцяг як ветрам здзьмуў усіх прадстаўнікоў чыноўніцкай “вертыкалі”, так і цяпер страх ад сцяга не пусціў іх на развітанне з Народным пісьменнікам Беларусі.

На могілках “Калодзішчы” цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. І ўсё – не ўбачым больш жывога Янку Брыля…

### Брылёўскі дух жыве!

Думкі, дух, словы Янкі Брыля будуць жыць вечна ў Беларусі і ўсім свеце, будуць захоўваць беларушчыну, дапамагаць жыць і будаваць вольную дэмакратычную цывілізаваную еўрапейскую дзяржаву з прыгожай назвай Беларусь, якую так любіў і аб якой усё жыццё марыў вялікі Янка Брыль.

На кніжнай паліцы ў маёй кватэры супраць майго пісьмовага стала стаіць шэраг кніг (у тым ліку пяцітомнік і трохтомнік) з пятнаццаццю аўтографамі Янкі Брыля і яго здымак. Працуючы, гляджу на іх, а перыядычна праглядаю і яго творы. Як некалі маёй стрыечнай сястры Галіне, дачцэ Максіма Гарэцкага, яны дапамагаюць жыць.

Янка Брыль – вялікі майстар роднага слова, сапраўдны інтэлігент, які заўсёды заставаўся самім сабой з дзівоснай сціпласцю і годнасцю, дабрынёй і прынцыповасцю, мудрасцю і любоўю; вялікі грамадзянін краіны, для росквіту якой рабіў усё, што мог; гонар беларускай нацыі, які так глыбока змог спасцігнуць народную душу; сумленне нацыі, які зваў свой народ да нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечых каштоўнасцяў.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Залатыя ланцужкі дорацьдзецям іх бацькі…

*У Мінску выхавальніца дзіцячага садка падчас ціхай гадзіны здымала з дзяцей залатыя ўпрыгажэнні і здавала іх у ламбард.*

Выхавальніца садка
Залатыя “цацкі” ў дзетак
Выкрадала спадцішка…
Як зрабіць даўмела гэтак?!
Хоць вушам сваім не вер:
Гэта ж грэх – не толькі сорам.
Ды давайце мы цяпер
Пра другое пагаворым.
Любім мы сваіх дзяцей,
Хочам іх пацешыць трошкі,
Дорым ім усё часцей
Залатыя “цацкі-брошкі”:
Завушніцы, ланцужкі,
Часам нават бранзалеты,
Каб, як іхнія бацькі,
Выглядалі шпінгалеты.
І ў дзіцёнка нездарма
Нараджаецца пагарда
Да таго, ў каго няма
Ні мільёна, ні мільярда.
Выстаўляе напаказ
Залатыя “цацкі” тыя.

* * *

Значна лепей, калі ў нас
Будуць дзеці залатыя…

# Што натхніла даму протараніць краму?

*У Бярозе дзяўчына на аўтамабілі “Мазда” ўехала ў хлебную краму. Пакінуўшы машыну ў павільёне, яна пайшла дахаты. Назаўтра дзяўчына з’явілася ў ДАІ з пахмелля…*

Дзяўчаты і хлопцы абапал стала,
Віно заліваецца ў зеўры…
Бурліваю, шумнаю п’янка была,
Бо глыкаць жа весела ў хеўры.
Напояў яшчэ – хоць заліся,
Але
Раптоўна не стала закускі:
Зжавалі і хлеб, што ляжаў на стале, –
Не толькі крэветкі-малюскі.
Не ўлежна без закусі
У гарляке
Піхаць алкагольныя грамы.
Дык выхад зусім натуральны які?
Хай нехта адскочыць да крамы.
Рашуча сказала дзяўчына:
– Сябры,
Як пешшу – да крамы няблізка.
Ды вунь мая “Мазда” стаіць у двары,
Злятаю на ёй, як вятрыска.
Чамусьці сябры палічылі: яна,
Бадай, разважае цвяроза.
Набулькалі ёй “на дарожку” віна –
Трайной атрымалася доза.
Па лужах – уплаў,
Па калдобах – наўскок
Да крамы яна даляцела.
“Дурніца! Забыла ж я ўзяць кашалёк! –
Цяпер толькі цюкнула ў цемя. –
Мне нельга прыйсці да сяброў без яды,
Бо страчу прыхільнасць адразу.
Яшчэ й насміхацца пачнуць…”
І тады
Дзяўчына дабавіла газу.
Як танк, што тараніў калісьці ў вайну
Любыя дамы і завалы,
Прабіў легкавік яе ў краме сцяну
І стаў пасярэдзіне залы.
І хтосьці ад страху
Паслаў ёй праклён,
Камусьці папросту цікава.
Дзяўчына, пакінуўшы горда салон,
Па зале прайшлася, як пава.
Прадуктаў дзяўчына набрала ў руку
І хлеб прыхапіла з паліцы.
Нібы верабейкі, сядзелі ў кутку,
Сачылі за ёй прадаўшчыцы.
Крутая, вядома, машыны цана –
Паболей, чым боханы хлеба.
Пакінула ў краме машыну яна
І мовіла:
– Здачы не трэба…

